


+TV ПРАГРАМА

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

27 ВЕРАСНЯ 2002 г. № 38/4172 КОШТ 316 РУБ



2-3

**24 верасня адбыўся XIV з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў**



5-12

*"Жыць па-еўрапейску, марыць па-беларуску"* — **з намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Дражыным гутарыць карэспандэнт "ЛіМа"**



7

*"Пражытае дзеля будучыні"* **75 гадоў з дня нараджэння Алеся Адамовіча**









**21 ВЕРАСНЯ НА СТАЎБЦОЎШЧЫНЕ ПРАЙШЛО РЭСПУБЛІКАНСКАЕ СВЯТА ПАЭЗІІ, ПРЫСВЕЧАНАЕ 120-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯКУБА КОЛАСА**

Фотарэпартаж А. ФЕДАРЭНЧЫКА







**«ЛіМ» ЗАЙМЕЎ ЭЛЕКТРОННЫ АДРАС. ПІШЫЦЕ ЛІСТЫ! GAZETA_LIM@TUT. BY**

На XIV з'ездзе СБП абраны новы старшыня. Ім стаў пісьменнік Алесь ПАШКЕВІЧ.



**Алесь (Аляксандр Аляксандравіч) Пашкевіч** нарадзіўся 11 верасня 1972 года ў вёсцы Набушава Слуцкага раёна. У 1994 годзе скончыў філалагічны факультэт БДУ, у 1998-м — аспірантуру пры ім. Кандыдат філалагічных навук, член СБП з 1994 г. Працаваў у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", адказным сакратаром і намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Першацвет", загадчыкам аддзела паэзіі часопіса "Нёман", апошнім часам — выкладчык філфака БДУ.

Аўтар кнігі паэзіі "Нябесная сервента" (1994 г.), дакументальнага рамана "Пляц волі" (2001 г.), літаратуразнаўчых манаграфій "Зваротныя дарогі" (2001 г.) і "Канцэпцыя нацыянальнага быцця ў беларускай літаратуры" (2002 г.).

# XIV З'ЕЗД СБП



*Валянцін БЛАКІТ і Генадзь БУРАЎКІН*



*У кулуарах з'езда*

24 верасня ў Доме літаратара прайшоў нечарговы XIV з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў. На ім прысутнічалі 333 дэлегаты, а таксама шмат гасцей, сярод якіх былі Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Леанід Гуляка, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Пётр Брыгадзін, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Міхаіл Падгайны і іншыя. Адкрыў з'езд народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Пра стан нацыянальнай літаратуры і перспектывы яе развіцця зрабіла даклад старшыня СБП Вольга Іпатава. У абмеркаванні яе выступлення прынялі ўдзел Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Алег Лойка, Уладзімір Дамашэвіч, Мікола Мятліцкі і іншыя. На пытанні дэлегатаў з'езда адказвалі — Памочнік Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Іван Карэнда, а таксама міністр інфармацыі Міхаіл Падгайны, міністр культуры Леанід Гуляка, міністр адукацыі Пётр Брыгадзін.

На парадку другой паловы з'езда стаяла арганізацыйнае пытанне. Кандыдатамі на пасаду старшыні СБП былі вылучаны Вольга Іпатава, Анатоль Бутэвіч, Уладзімір Ліпскі, Мікола Мятліцкі і Алесь Пашкевіч. Пасля абмеркавання кандыдатур і самаадводаў у бюлетэні для тайнага галасавання былі запісаны Уладзімір Ліпскі і Алесь Пашкевіч. На абмеркаванне дэлегатаў з'езда быў прапанаваны новы склад Рады СБП. У спісак для тайнага галасавання ўключылі 58 пісьменнікаў.

У галасаванні прынялі ўдзел 292 чалавекі. Пасля падліку галасоў было агучана наступнае — "за" Уладзіміра Ліпскага прагаласавалі 118 чалавек, "супраць" — 159; "за" Алеся Пашкевіча 159, "супраць" — 118. 15 бюлютэняў былі несапраўднымі. Такім чынам старшынёй Саюза беларускіх пісьменнікаў большасцю галасоў быў абраны Алесь Пашкевіч. У новы склад Рады СБП выбрана 45 чалавек.

*Фота КАСТУСЯ ДРОБАВА*



*Вячаслаў ДУБІНКА і Уладзімір АРЛОЎ*



*Янка БРЫЛЬ і Генрых ДАЛІДОВІЧ*

## РАДА СБП

**Васіль Быкаў**
**Ніл Гілевіч**
**Рыгор Барадулін**
**Эдуард Акулін**
**Уладзімір Арлоў**
**Алесь Бадак**
**Раіса Баравікова**
**Лявон Баршчэўскі**
**Алесь Бельскі**
**Данута Бічэль**
**Генадзь Бураўкін**
**Анатоль Бутэвіч**
**Пятро Васючэнка**
**Анатоль Вярцінскі**
**Генрых Далідовіч**
**Леанід Дранько-Майсюк**
**Аляксей Дудараў**
**Алесь Жук**
**Сяргей Законнікаў**
**Васіль Зуёнак**
**Вольга Іпатава**
**Віктар Казько**
**Алесь Камароўскі**
**Алесь Каско**
**Анатоль Кудравец**
**Уладзімір Ліпскі**
**Алег Лойка**
**Адам Мальдзіс**
**Алесь Масарэнка**
**Алесь Наварыч**
**Алесь Пашкевіч**
**Уладзімір Паўлаў**
**Алесь Пісьмянкоў**
**Барыс Пятровіч**
**Вячаслаў Рагойша**
**Людміла Рублеўская**
**Янка Сіпакоў**
**Франц Сіўко**
**Міхась Скобла**
**Васіль Ткачоў**
**Андрэй Федарэнка**
**Кастусь Цвірка**
**Віктар Шніп**
**Уладзімір Ягоўдзік**
**Эрнест Ялугін**

## ПРЫНЯТЫЯ Ў САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

23 верасня напярэдадні нечарговага XIV з'езда СБП на Радзе ў Саюз беларускіх пісьменнікаў былі прыняты: Людміла Андзілеўка, Сяргей Чыгрын, Аляксей Філатаў, Віктар Слінко, Алена Якаўлева, Ніна Рыбік, Ніна Гарагляд, Уладзімір Гаўрыловіч, Мікола Захаранка.

# СТАЎ ГІСТОРЫЯЙ



*Янка БРЫЛЬ і Ніл ГІЛЕВІЧ*



*У зале з'езда*



*Каля кніжнай паліцы*



*Вольга ІПАТАВА і айцец Мікалай (Алег БЕМБЕЛЬ)*

**ДАТЫ**

# Ад вясельнага аркестра...

## З дня нараджэння заслужанага артыста Беларусі Самуіла ПАЛОНСКАГА мінула 100 гадоў

Яго радзімай была Падольшчына. Тамсама, у 10-гадовым узросце, атрымаў ён і першыя музычныя ўрокі ў мясцовага скрыпача. І неўзабаве, як сведчаць біёграфы, пачаў вандраваць па вёсках ды мястэчках у складзе так званага вясельнага аркестра.

На далейшы лёс С. Палонскага паўплывалі падзеі грамадзянскай вайны. 17-гадовым юнаком ён добраахвотна прыйшоў у Чырвоную Армію, дзе затаваўся на працягу трох гадоў — пакуль камандаванне Першай чырвона-казачай дывізіі на Украіне не накіравала яго ў Кіеўскі музычна-драматычны інстытут. Самуіл Палонскі скончыў харавы факультэт, пачаў працаваць кіраўніком аматарскіх калектываў, адначасова займаючыся ў інстытуце па класе кампазіцыі (у В. Залатарова ды М. Равуцкага).

З 1928 г. ён у Мінску. Трыццаць гадоў кіруе тут яўрэйскім хорам, затым становіцца мастацкім кіраўніком Беларускай рэспубліканскай харавой капэлы, Ансамбля песні і танца БВА, кіруе шэрагам самадзейных калектываў. Пры гэтым плённа працуе як кампазітар: піша песні, хоры, музыку да драматычных спектакляў і кінафільмаў.

У гады Вялікай Айчыннай вайны Самуіл Палонскі працаваў у эвакуацыі. Спачатку — музычным рэдактарам Новасібірскай кінастудыі, затым — мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага ансамбля песні і танца, кансультантам вайсковай самадзейнасці.

Пасля вайны кампазітар застаўся ў Расіі, жыў у Маскве, дзе і завяршыўся яго зямны шлях (май 1955 г.). Аднак сувязяў з беларускім музычным мастацтвам ён не парываў, напісаў яшчэ нямала твораў на вершы беларускіх паэтаў.

Разважаючы пра адметнасць творчай спадчыны Самуіла Палонскага, найперш звяртаеш увагу на яе каларытныя старонкі, звязаныя з фальклорам. Ён плённа апрацоўваў народныя песні ды танцы для хору, для голасу і фартэпіяна, для баяна. Апроч беларускіх, тут былі ўкраінскія, рускія, літоўскія, латышскія, армянскія, чувашскія, малдаўскія, польскія, венгерскія, румынскія, амерыканскія, англійскія, балгарскія, мараўскія матывы. І гэта яшчэ не поўны пералік. Нямала твораў С. Палонскага напісана на аснове яўрэйскага музычнага фальклору.

Сярод беларускіх паэтаў, чыя творчасць натхняла кампазітара, былі М. Танк, П. Броўка, А. Александровіч, М. Васілёк, І. Муравейка, М. Машара, А. Русак, П. Прыходзька ды інш.

У спадчыне С. Палонскага — нямала камерных інструментальных твораў, ёсць і п'есы для аркестра. Ды яго творчай візітоўкай, якую ведалі й ведаюць беларускія слухачы розных пакаленняў, застаецца твор харавы, напісаны на верш П. Броўкі. Гэта — "На Палессі гоман, гоман".

**С. Б.**

# АБСЯГІ

*БРЭСТЧЫНА*

Францыя ў чарговы раз прымала калектывы мастацкай самадзейнасці. З гастрольнымі канцэртамі еўрапейскую дзяржаву наведалі народны ансамбль песні і танца "Палескія зоры" Пінскага ГДК, народны ансамбль танца "Радасць" Брэсцкага ГДК і народны ансамбль народнай музыкі "Палешукі" ЦК і НТ Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці.

•

У 2000 годзе Брэсцкі абласны грамадска-культурны цэнтр выдаў першы зборнік з рэпертуару народнага ансамбля песні і танца "Палескія зоры" (кір. Міхаіл Цурканаў), які дзейнічае на базе Пінскага гарадскога Дома культуры.

Першы зборнік ансамбля "Палескія зоры", які выйшаў пад аднайменнай назвай, карыстаўся папулярнасцю і меў поспех сярод работнікаў устаноў культуры вобласці. Таму ў гэтым годзе выдадзены другі зборнік "Пяю цябе, мая зямля". У яго ўвойдуць 18 песень. Спадзяёмся, што ён таксама набудзе сваіх прыхільнікаў.

**Аксана КЛУНІНА**

*ГРОДЗЕНШЧЫНА*

У галерэі "У майстра" адкрылася выстаўка вядомага гродзенскага скульптара, разьбяра М.Скляра. У экспазіцыі прадстаўлены разнастайныя творы, выкананыя ў дрэве і камені.

•

17 жніўня ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце адбылася сустрэча саломапляцельшчыкаў з ЗША (Морган Оўэнс — Цэлі, дырэктар Музея саламянага мастацтва, Каліфорнія), Велікабрытаніі (Хэйзел Котхіл старшыня гільдыі майстроў саломапляцення) і Венгрыі (Тундэ Ілона Тускэс, дырэктар музея саломапляцення) з мясцовымі майстрамі, прадстаўнікамі універсітэта і упраўлення культуры аблвыканкама. Падчас сустрэчы абмяркоўваліся пытанні правядзення ў Гродна і вобласці ў жніўні 2003 г. Міжнароднага фестывалю па саломапляценні.

**Алена ХРАМКОВА**

*ГОМЕЛЬШЧЫНА*

Гомельскаму прафесійна-тэхнічнаму вучылішчу чыгуначнага транспарту № 35 імя народнага пісьменніка Беларусі Міхася Лынькова споўнілася 80 гадоў. За гэты час яно выпусціла дзесяткі тысяч спецыялістаў. Сёння ў ім займаюцца будучыя памочнікі машыністаў цеплавозаў і дызель-паяздоў, праваднікі пасажырскіх вагонаў, слесары па рамонце рухомага саставу, пекары, кандытары, карамельшчыкі. Сёлета дабавілася новая спецыяльнасць – брыгадзір па ўтрыманні і рамонце чыгуначных пуцей.

Акрамя вытворчага навучання ў ПТВ вялікая ўвага надаецца выхаваўчай рабоце. І тут немалаважную ролю адыгрываюць музей імя Міхася Лынькова і бібліятэка. У музеі на відным месцы бюст і партрэт народнага пісьменніка, ля якіх заўжды стаяць кошыкі з кветкамі. У экспазіцыі кнігі Міхася Ціханавіча, у тым ліку захапляючая для юнага пакалення – "Міколка-паравоз". Тут жа фоталетапіс жыцця нашага земляка. На адным з іх ён разам з волатамі беларускай літаратуры Іванам Шамякіным, Кандратам Крапівой, Піменам Панчанкам, Максімам Танкам. Напярэдадні юбілею вучылішча абноўлена і экспазіцыя музея. Значнае месца ў ім адведзена героіцы Вялікай Айчыннай вайны. У гэтым ПТВ вучыліся Героі Савецкага Саюза, удзельнік Гомельскага падполля інжынер Ц.Барадзін, які загінуў пад гітлераўскімі катаваннямі, і партызан-падрыўнік Б.Калач, які пасля вайны доўгі час узначальваў Гомельскую СШ № 2. У музеі праходзяць экскурсіі, вечарыны, сустрэчы з ветэранамі. У ім, як правіла, з пачатку навучальнага года знаёмяцца з яго экспазіцыямі першакурснікі. Музей пад неаслабнай увагай дырэктара ПТВ І.В.Целянца і намесніка дырэктара па вучэбна-выхаваўчай рабоце В.Галавач.

Бібліятэка, якой загадвае Т.Лапіцкая, таксама працуе творча. І значнае месца адведзена жыццёваму і творчаму шляху знакамітага пісьменніка. У бібліятэцы аформлена кніжная выстава "Яго імя носіць ПТВ". На самым відным месцы ляжыць раман "Векапомныя дні", які ўвайшоў у залатую скарбонку беларускай літаратуры. І цяпер збіраюцца новыя матэрыялы пра М.Ц.Лынькова, якія друкуюцца ў перыядычных выданнях. Напярэдадні дня нараджэння пісьменніка, у лістападзе праводзяцца літаратурныя вечары, гутаркі пра яго жыццё і творчасць. У бібліятэцы ёсць і стэнды "Пісьменнік. Настаўнік. Грамадзянін", "Прафесія чыгуначніка ў творчасці Міхася Лынькова" і іншыя.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

# ЖЫЦЬ ПА-ЕЎРАПЕЙСКУ, МАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

## З намеснікам прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімірам ДРАЖЫНЫМ гутарыць карэспандэнт "ЛіМа"

**— Мястэчка Мір прымала нядаўна ўдзельнікаў і гасцей свята беларускага пісьменства — свята маляўнічага, са змястоўнай разнастайнай праграмай, праведзенага на высокім афіцыйным узроўні. У складаных эканамічных умовах дзяржава знаходзіць магчымасць падтрымліваць такія акцыі, што на карысць нацыянальнай, культурнай годнасці Беларусі. А тры месяцы таму ў Міры адбылася падзея, надзвычай важная для сусветнага прэстыжу нашай краіны. Уладзімір Несцеравіч, што вы маглі б расказаць з нагоды гэтай падзеі?**

— Сёлета нам, я лічу, пашанцавала ўбачыць сур'ёзны вынік сістэмнай працы: у ліпені адбыўся візіт на Беларусь Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Каіціры Мацууры. Мы правялі дзелавыя перамовы. Наш высокі госць таксама ўзяў удзел ва ўрачыстасцях з нагоды ўключэння замкавага комплексу "Мір" у Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны, у цырымоніі адкрыцця адпаведнай мемарыяльнай шыльды.

Якая сістэмная праца маецца на ўвазе? Справа ў тым, што апошнія гады мы вельмі настойліва і зацікаўлена ставілі пытанні ў ЮНЕСКА, звяртаючы ўвагу на каштоўныя помнікі, якія ёсць на Беларусі,— з тым, каб яны ўвайшлі ў спіс помнікаў сусветнай культуры, цывілізацыі.

Калі я працаваў яшчэ ў Нясвіжы, быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Успамінаю візіт нашай парламенцкай дэлегацыі ў Францыю. Мы працавалі з нацыянальным сходам Францыі, вывучалі вопыт. І ў мяне тады была вялікая просьба – каб нас прынялі ў штаб-кватэры ЮНЕСКА ў Парыжы. Дзякуючы паслу Рэспублікі Беларусь у Францыі, а таксама нашаму прадстаўніку ў ЮНЕСКА Ніне Мікалаеўне Мазай такі візіт адбыўся. У сувязі з пытаннем наконт унясення беларускіх помнікаў у Спіс сусветнай прыроднай і культурнай спадчыны мы тады вялі размову пра Мірскі замак – пабудову асаблівую не толькі на тэрыторыі краін СНД, але і ў Еўропе. Мы гаварылі таксама пра ўключэнне ў Спіс ЮНЕСКА Нясвіжскага замка князёў Радзівілаў. Атрымалі згоду на вырашэнне гэтых праблем, і праца пайшла.

З таго часу восем гадоў прайшло.І было вельмі прыемна, калі праз такі час мне, ужо на працы ў Савеце Міністраў, давялося прымаць Генеральнага дырэктара ЮНЕСКА ў Мінску, пабываць са спадаром Мацуурам у Міры, дзе было афіцыйна абвешчана пра новы, сусветны статус замкавага комплексу. Гэта, безумоўна, падзея не мясцовага значэння – гэта падзея агульначалавечага кшталту. Выступаючы там, спадар Мацуура падкрэсліў, што Мірскі замак ужо ўвайшоў у сусветную спадчыну і сёння стаіць побач з егіпецкімі пірамідамі, з каньёнамі ЗША і некаторымі іншымі помнікамі, якімі адметная цывілізацыя. А гэта ўскладае адказнасць і на ЮНЕСКА – арганізацыю, якая патрануе навуку, культуру, архітэктуру, камунікацыі, -- і на Рэспубліку Беларусь, якая павінна працягваць працу па рэстаўрацыі гэтага помніка.

Беларусь цяпер павінна рабіць усё, каб Мір стаўся таксама месцам правядзення міжнародных самітаў і месцам для прадстаўніцтва ЮНЕСКА ў Беларусі. І каб ніколі не паўтарыліся тыя старонкі гісторыі, калі ля замкавых муроў сыходзіліся ў бітвах ваяры. А каб каля гэтага замка сыходзіліся людзі, якія цягнуцца да культуры, да ўзораў старажытнага дойлідства, і ў цудоўным архітэктурна-ландшафтным асяроддзі вырашалі б праблемы далейшага развіцця добрых традыцый і росквіту цывілізацыі. І, канечне ж, -- праводзілі б святы.

**— Асаблівы статус Міра ўжо сёлета пацвердзіўся рашэннем урада правесці тут Дзень беларускага пісьменства. Уладзімір Несцеравіч, вы ўдзельнічалі амаль ва ўсіх такіх святах, што прайшлі ўжо ў дзевяці розных мястэчках і гарадах Беларусі. У Нясвіжы вы асабіста займаліся правядзеннем Дня беларускага пісьменства: былі тады старшынёй райвыканкама. Ды і ў Заслаўі кіравалі падрыхтоўкай свята, бо тады працавалі першым намеснікам старшыні Мінскага аблвыканкама...**

— Я лічу, што падрыхтоўка і правядзенне гэтых святаў дазваляюць нам вельмі годна ўзнаўляць мясцовае асяроддзе, ці, як мы кажам, асяродак месцазнаходжання і жыцця чалавека. Той жа Мір напярэдадні Дня беларускага пісьменства нагадваў і цяпер нагадвае навабудоўлю: робяцца сучасныя камунікацыі, дарогі, добраўпарадкоўваюцца вуліцы, ствараецца інфраструктура для прыёму гасцей, турыстаў... Робіцца і будзе зроблена ўсё, каб стварыць зручнасці і для жыхароў, і для тых, хто прыязджае. Ужо да свята Мір стаў істотна абноўлены. Неўзабаве будуць не толькі замак, а і пасёлак, само жыццёвае асяроддзе параўноўваць з тыповым еўрапейскім цывілізаваным населеным пунктам.

Так, цяпер у нас не хапае фінансаў, матэрыяльных рэсурсаў. Але сканцэнтраваўшы рэсурсы на рэспубліканскім узроўні, абласным і мясцовым, дзяржава мае магчымасць праводзіць сваю палітыку па падрыхтоўцы святаў, што дазваляе нам усе тыя месцы, дзе ладкуюцца імпрэзы, узняць на ўзровень высокаарганізаваных еўрапейскіх гарадоў, паселішчаў. Успомніце, як, напрыклад, пераўтварыліся Мсціслаў, Заслаўе...

Кожны год мы праводзім яшчэ і "Дажынкі". Гэты фестываль-кірмаш прайшоў сёлета ў Полацку, засведчыўшы, зноў жа, якая робіцца вялікая справа для развіцця малых гарадоў. Урад са згоды Прэзідэнта РБ даў магчымасць Віцебскаму аблвыканкаму і Полацкаму гарвыканкаму асвоіць тры мільярды рублёў для ўзнаўлення помнікаў архітэктуры і правядзення работ па абнаўленні камунікацый і жыццёвага асяроддзя палачан. Я лічу, правядзенне "Дажынак" дало магчымасць і гэты гістарычны горад (які, дарэчы, сёлета адзначыў сваё 1140-годдзе і юбілейную дату Еўфрасінні Полацкай) узняць на новы ўзровень цывілізаванасці.

Іншыя скажуць: дык што ж вы ўсе грошы накіроўваеце на паасобныя гарады? А я лічу, што калі мы займаем тыя ці іншыя адказныя пасады, у нас ёсць жыццёвы абавязак: выпрацаваць і рэалізаваць дзяржаўную палітыку ўзнаўлення найперш гістарычных мясцін роднай краіны. І такім чынам, адрадзіўшы іх, сказаць, што мы не Іваны, якія не помняць свой радавод, а мы не страцілі сваю гістарычную памяць і робім усё, каб адрадзіць і зберагчы на шматпакутнай беларускай зямлі тое адметнае, што было на працягу многіх стагоддзяў.

Рэстаўрацыя – гэта сёння палітыка дзяржаўная. Мы маем адпаведную праграму ўзнаўлення помнікаў архітэктуры. Яна выконваецца ўрадам і, падкрэслю, сумеснымі намаганнямі кіраўніцтва краіны, абласцей, мясцовых органаў улады, -- з мэтай упарадкаваць нашы гарады і мястэчкі ў адпаведнасці з узроўнем еўрапейскай цывілізацыі. Я лічу, толькі такія падыходы могуць агульнае наша жыццё ўзвысіць, дапамогуць Беларусі годна заявіць пра сябе ў свеце. І падкрэслю: рашэнне, якое прынята ЮНЕСКА наконт замкавага комплексу "Мір", -- не спантаннае, гэта вынік паслядоўнасці нашай дзяржаўнай палітыкі, амаль 10-гадовай працы.

**— Уладзімір Несцеравіч, як вядома з афіцыйнага друку, вы гаварылі са спадаром Мацуурам пра мэтазгоднасць рэалізаваць сумесна з ЮНЕСКА яшчэ некалькі праектаў.**

— Так, быў выказаны шэраг прапаноў аб далейшым супрацоўніцтве Беларусі з ЮНЕСКА, а таксама гатоўнасць нашай краіны да ўдзелу ў выкананні ўсіх праграмных дакументаў гэтай арганізацыі і г.д. Ёсць перспектывы супрацоўніцтва ў галіне адукацыі. У нас сёння дзейнічае 5 кафедраў, каля дзесятка асацыіраваных школ і 57 клубаў ЮНЕСКА. Маем нацыянальную праграму, праз якую выконваем сусветны план "Адукацыя для ўсіх". З 1994 г. Беларусь арганізавала 17 праектаў, якія фінансуюцца ЮНЕСКА. У сферы навукі адна з галоўных задач сёння – ажыццяўленне комплекснай праграмы ўстойлівага развіцця нашага Палесся, унікальнага рэгіёна Беларусі, важнага для экалагічнай раўнавагі ва ўсёй Еўропе. Пра гэта мы заявілі нядаўна і ў Йаханесбургу на міжнародным саміце па праблеме ўстойлівага развіцця.

Вы ведаеце, што ЮНЕСКА распрацавала і прыняла ўсеагульную дэкларацыю "Аб культурнай разнастайнасці". Дэкларацыя аб павазе да разнастайнасці культур, ідэалагічнай цярпімасці, супрацоўніцтве ў абстаноўцы даверу і ўзаемаразумення – гэта зарука міру і бяспекі. Наша насельніцтва заўжды было поліэтнічнае. І станоўчы вопыт развіцця Беларусі ў духу названай дэкларацыі – правядзенне Усебеларускага фестывалю нацыянальных культур у Гродне (сёлета ўжо чацвёртага), а таксама Міжнароднага сімпозіуму "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".

Мы гаварылі з Каіцірам Мацуурам наконт супрацоўніцтва паводле праграмы ЮНЕСКА "Памяць свету". Многія дакументы, цікавыя для беларускіх даследчыкаў, -- у прыватнасці, архівы Радзівілаў, Агінскіх, -- знаходзяцца за межамі нашай краіны. У Беларусі ж ёсць шэраг дакументаў, якія ўяўляюць вялікую гістарычную каштоўнасць. Паўстае задача: для больш плённага даследавання перавесці іх на лічбавую аснову, распрацаваўшы адпаведныя праекты пад эгідай ЮНЕСКА.

У галіне культурнага турызму нашы сённяшнія прыярытэты – замкавы комплекс "Мір", Нацыянальны музей-заказнік у Нясвіжы, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік.

Вось асноўныя пазіцыі, вызначаныя падчас перамоваў з Генеральным дырэктарам ЮНЕСКА. Паколькі зацікаўленасць адчуваецца, падтрымка ёсць, я лічу, што мы будзем і далей ісці ў напрамку міжнароднага прызнання Беларусі як краіны, дзе паслядоўна вядзецца праца па аднаўленні гістарычнай спадчыны.

**— Уладзімір Несцеравіч, для каардынацыі работ па рэстаўрацыі палацава-паркавага ансамбля ў Нясвіжы нядаўна створаны штаб, які вы ўзначалілі. Прычым, Савет Міністраў вызначыў надзвычай сціслыя тэрміны ўводу Нясвіжскага замка ў дзеянне: 2006—2007 г.г. Наколькі гэта рэальна?**



— Ужо рыхтуюцца ўсе матэрыялы, неабходныя дакументы па Нясвіжскім палацава-паркавым ансамблі, якія трэба прадставіць у ЮНЕСКА. Над гэтым працуе спецыяльная камісія пад кіраўніцтвам пасла РБ па асаблівых даручэннях, Уладзіміра Рыгоравіча Шчаснага. Супрацоўніцтва ў вырашэнні праблемы Нясвіжа будзе, як сказаў К.Мацуура наступным крокам ЮНЕСКА ў адносінах з Беларуссю. Нагадаю, што першы раз гэта праблема ўзнімалася падчас візіту нашай парламенцкай дэлегацыі ў Францыю восем гадоў таму. Справа ідзе, хаця і не проста. Але паслядоўна. Абяцаў садзейнічаць надзвычайны і паўнамоцны пасол РБ у Францыі Уладзімір Лявонавіч Сянько. Ён з'яўляецца актыўным членам ЮНЕСКА, прадстаўніком нашай краіны і, знаходзячыся там, зможа дапамагчы Беларусі ў гэтай вялікай справе.

**— Аднак даследчая праца, распачатая ў Нясвіжскім замку, паказала, што ён ужо ў аварыйным стане, і пакуль дойдзе да рэстаўрацыі... Яго хаця б уратаваць!**

— Шчыра скажу: па Нясвіжы трэба было раней нам прымаць рашэнне. Бо тое, што там адбывалася, не адпавядала патрабаванням часу. Але мы зацягнулі гэту справу. І ўсё-ткі яна з месца скранулася. Мы вывелі адтуль санаторый, які там знаходзіўся, і рэстаўратары атрымалі магчымасць працаваць. Вы ведаеце галоўную праблему: уся праца па ўзнаўленні палацава-паркавага ансамбля каштуе вельмі шмат. Паводле ацэнкі нашых спецыялістаў, гэта каля 25 млн. долараў. Але ж Нясвіжскі замак павінен стаць гістарычным цэнтрам жыцця беларусаў, адлюстраваўшы нашы з'явы і падзеі за пяць стагоддзяў. Таму, я думаю, рэалізацыя гэтага культурнага праекта вымагае працы больш дынамічнай.

Згодна дзяржаўнай інвестыцыйнай праграме, на стварэнне праектнай дакументацыі вылучана 100 млн. рублёў, пэўныя грошы трэба ўкласці ў правядзенне першапачатковых рэстаўрацыйных работ. У цэлым, думаю, за гэты год удасца асвоіць каля 350 млн. рублёў. Гэтага яўна мала. Відавочна, што ў 2003-м годзе ў нас таксама будзе шмат праблем з інвестыцыйнай праграмай, але, спадзяюся, зможам павялічыць аб'ёмы фінансавання і праца пойдзе больш дынамічна. Цяпер намаганнямі гісторыкаў, праектантаў, бібліёграфаў, археолагаў трэба зрабіць усё неабходнае па ўзнаўленні колішняга асяроддзя, гісторыі самога замка і жыцця беларуса за апошнія пяць стагоддзяў.

**— Кажуць, што "жывыя" грошы на рэстаўрацыю можна даволі хутка зарабіць, калі развіць у горадзе адпаведную інфраструктуру: калі былі б гасцініцы, матэлі, пункты хуткага харчавання, аб'екты сферы паслуг, дык ні нашы, ні замежныя "транзітнікі" не абміналі б Нясвіж. Сёння турысты заехалі, глянулі, крутануліся — ды паехалі далей. Бо няма дзе прытуліцца. Іначай заставаліся б хаця б на суткі, пакідалі б гораду пэўныя грошы...**

— Абсалютна правільна. Я думаю, што мы павінны разглядзець такую праблему. Пакуль адрэстаўруецца ўвесь замак, пройдзе шмат часу. Можа, трэба зрабіць раней некалькі залаў – для лакальных экскурсій. І няхай ідзе праца па рэстаўрацыі, але ўжо будзе чым прывабіць турыстаў.

Мясцовыя ўлады сёння працуюць над тым, каб стварыць умовы для прыёму турыстаў. У гэтай інфраструктуры – і сістэма экскурсійнага абслугоўвання, і сістэма харчавання, і сувенірнае забеспячэнне. Зазначу, што з Нясвіжа сёлета выведзена вайсковая частка. Яна размяшчалася паблізу замка. Я лічу, на былой яе базе мэтазгодна зрабіць турыстычны цэнтр, дзе можна і людзей размяшчаць, і транспарт паркаваць, і сервісны асяродак развіць. Словам, рэзервы ёсць. А іх асваенне – задача найперш мясцовых уладаў і ўсіх, хто непасрэдна займаецца ўзнаўленнем Нясвіжскага музея-запаведніка. Усё можа атрымацца.

**— Ёсць у нас і сціплы горад-запаведнік: Заслаўе...**

— Заслаўе – таксама наш боль. У свой час, яшчэ пры савецкай уладзе, была зроблена вельмі дрэнная справа, калі ў гэта мястэчка вынеслі з Мінска шэраг індустрыяльных аб'ектаў: жалезабетонныя прадпрыемствы, заводы па вырабе цэглы, склады і да т.п. Старажытны гістарычны культурны цэнтр засілілі гэтымі вытворчасцямі. І калі мы, нарэшце, звярнуліся да гісторыі, бо ў 2000 годзе спатрэбілася ўзнавіць Заслаўе да свята беларускага пісьменства, нам было вельмі няпроста. Але цэнтр горада ўсё-ткі ўпарадкавалі, звярнуўшы ўвагу на гістарычныя помнікі. Тады давялося сканцэнтраваць усе рэсурсы Мінскай вобласці. Барысаў, Жодзіна, Слуцк, Салігорск, Маладзечна – розныя гарады дапамагалі Заслаўю ўзнавіцца.

Але працу трэба працягваць. У Заслаўі, паводле нашай вялікай гісторыі, прайшла частка нялёгкага жыцця Рагнеды і сына яе Ізяслава. Горад знаходзіцца ў 20-ці кіламетрах ад сталіцы. Мы маем унікальную магчымасць зрабіць гэтую мясціну шырока вядомай і прыцягальнай для многіх людзей. Калі б тая турыстычная плынь, што накіроўваецца з Расіі на Захад, заязджала ў Мінск, а следам – у Заслаўе і адтуль, праз Нясвіж, Мір, -- рухалася далей, дык быў бы грашовы даход нам і культурна-пазнавальная карысць нашым гасцям.

Вы ведаеце, што ў Заслаўі, услед за Нясвіжам, з лёгкай рукі Міхаіла Якаўлевіча Фінберга пачалі праводзіцца фестывалі камернай музыкі. Калі мы музычную культуру, якая мае глыбокія карані ў мінулых стагоддзях, сёння скіроўваем у рэгіянальныя цэнтры (як ужо зроблена ў Нясвіжы, Заслаўі, Мсціславе), -- гэта правільна, і такая добрая традыцыя павінна ахапіць не толькі гістарычныя цэнтры, але ўсю нашу Беларусь.

Я лічу, надышоў той час у жыцці нашай краіны, калі каштоўнасці духоўныя выходзяць на першае месца. Раней жа на першым месцы была эканоміка, памятаеце? Але народ заўсёды цягнуўся да вытокаў сваёй нацыянальнай культуры, да мастацтва, гэта заканамерна і варта падтрымкі. Вось успомнім зараз святкаванне 200-годдзя з дня нараджэння Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Удзельнічала вельмі шмат гасцей, з усёй Беларусі і замежных: свята было непаўторнае! І сама асоба А.Міцкевіча выклікала такі духоўны ўздым розных людзей! Гэта пераконвала ў тым, што культура – здабытак міжнацыянальны, агульнагістарычная з'ява, да якой аб'ектыўна далучаны розныя народы, та-

**(Заканчэнне на стар. 12)**

# ІНСТЫТУТ ГЁТЭ ПРАПАНУЕ

3 верасня распачала новы сезон М-Галерэя Нямецкага культурнага цэнтра імя Гётэ ў Мінску выставай Вольгі Нікішынай "Цыферблат". Яна працягвае серыю персанальных выставаў маладых беларускіх мастакоў — удзельнікаў трэцяга міжнароднага тэматычнага праекта "Вокны аднаго горада". Вясной і летам у М-галерэі адбыліся выставы Андрэя Басалыгі і Паўла Татарнікава, восенню і зімой будуць паказаны працы Рамана Сустава і Юрыя Якавенкі. "Цыферблат", такая назва нарадзілася ў Вольгі Нікішынай пад уздзеяннем верша Ахмадулінай, які стаў тэмай гэтай выставы. Працы не з'яўляюцца прамымі ілюстрацыямі, гэта абстрагаванае графічнае асмысленне паэтычнага твора.

10 верасня у музеі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў адкрылася выстава "Рэклама ў Германіі", падрыхтаваная Нямецкім культурным цэнтрам імя Гётэ сумесна з Нямецкім музеем рэкламы і часопісам "Штэрн". Гэта рэтраспектыўная экспазіцыя, якая пачынаецца 1871-1918 гадамі, часам кайзера Вільгельма, прадстаўляе авангард Веймарскай рэспублікі (1919-1933), прапагандысцкія плакаты нацыянал-сацыялізму (1933-1945), пасляваенны час. Асобна вылучана рэклама ГДР і яе змены падчас студэнцкіх хваляванняў 1968-1977 гадоў, эстэтыка асалоды ад жыцця, якая панавала ў Германіі ў канцы 1970 —1980-х гадах, змены ў рэкламе, якія адбыліся пасля аб'яднання дзвюх частак краіны.

А 18 верасня Нацыянальны мастацкі музей запросіць гледачоў на выставу "Норберт Крыке. Малюнкі і прасторавая пластыка". Н.Крыке (1922-1984) сімвалізуе цэлую эпоху нямецкага мастацтва. Яго асноўны пластычны матэрыял — дрот, які ён выкарыстоўваў з 1950 года і на працягу ўсёй творчасці. Вялікае значэнне мастак надаваў малюнкам, якія былі для яго не падрыхтоўчым матэрыялам, а візуалізацыяй тэмы на паперы.

# ВЫСТАВА БРЭСЦКІХ МАЙСТРОЎ

Апошнім часам Рэспубліканская мастацкая галерэя пры Беларускім саюзе мастакоў усё больш месца прадастаўляе мастакам з рэгіёнаў. Толькі нядаўна там закрылася выстава мазырскага мастака М.Дубравы, услед за ёю адкрылася выстава мастакоў Брэсцкай вобласці. Выстава ўразіла многіх. Найперш таму, што брэстчане прывезлі шмат папраўдзе добрых твораў, якія прыгожа размесціліся ў вялікай зале галерэі. Акрамя жывапісу тут былі прадстаўлены таксама скульптура, шаўкаграфія, графіка, кераміка. Вялікі спектр тэхнік і тэмаў, якія цікавяць брэсцкіх мастакоў, прыемная навіна для Мінска. Частка экспазіцыі ператварылася ў маленькую персанальную выставу заслужанага дзеяча мастацтваў П.Данэліі, прадстаўніка рэалістычнай школы. Яго пейзажы з уздыбленымі аблокамі і выразныя партрэты заўжды былі неардынарнымі і запамінальнымі. Большасць брэсцкіх мастакоў працуе ў фігуратыўнай манеры, але блізкасць Польшчы зрабіла свой уплыў і на іх. На выставе мала твораў класічнага рэалізму. Асабліва яскрава гэта бачна ў скульптуры, якая блізкая па форме да абстрагаванай пластыкі еўрапейскага мастацтва.

**Н.Ш.**

# "БЕЛАРУСКІ ГІСТАРЫЧНЫ ЧАСОПІС", № 4

Увазе чытача прапануюцца наступныя матэрыялы: "Балканскі нацыяналізм як феномен XX стагоддзя" А.Космач, "Праблемы прававой аховы гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі" І.Мартыненкі, "Паставіў град Барысаў у сваё імя..." Г.Штыхава, "Калекцыя напалеаністыкі І.Х.Каладзеева ў Нова-Барысаве" А.Гужалоўская, "Віцебская губерня ў дакументах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі" А.Галубовіч і Л.Лісавай, "Віцебшчына архіўная" М.Пішчулёнка, "Віцебская вучоная архіўная камісія і ахова старажытных помнікаў даўніны" М.Клепікава, "Смаляне – старажытнае мястэчка" В.Мяжэвіча, "Адысея Грандэ Эдукадора" В.Чаропкі. "Беларуская скарбніца культуры" У.Пракапцова і іншыя. Змешчаны таксама шэраг метадычных распрацовак, рэцэнзіі на новыя кнігі.

**ТЭАТР**

# БЫЦЬ ЧАСТКАЙ СВЕТУ

*Удзел у міжнародных тэатральных фестывалях — гэта не толькі спосаб адпачыць ці спатоліць уласную прагу вядомасці. Гэта ў першую чаргу сродак папулярызацыі беларускага мастацтва. Наладжваць кантакты можна не толькі праз палітыку. Мова мастацтва, тым больш мастацтва класічнага, зразумелая ва ўсім цывілізаваным свеце. Быць паўнапраўнай часткай гэтага свету — тое, да чаго трэба імкнуцца. Так лічыць генеральны сакратар Беларускага цэнтра Міжнароднага інстытута тэатра Антаніна МІХАЛЬЦОВА. Яна ж — рэжысёр і педагог Беларускага універсітэта культуры, яна ж — загадчык літаратурнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Максіма Горкага. Размаўляць з такім чалавекам на адну канкрэтную тэму аказалася папросту немагчыма. Таму — пра ўсё пакрысу: пра фестывалі мінулыя і будучыя, пра поспехі і пралікі, пра планы і іх здзяйсненні.*



**— Антаніна Іванаўна, не так даўно вы вярнуліся з тэатральнага фестываля, што ладзіўся на грэчаскім Кіпры. Раскажыце, калі ласка, пра сваю вандроўку.**

— Міжнародны фестываль старажытнагрэчаскай драмы вышэйшых тэатральных школ — гэта поўная яго назва — штогод адбываецца ў тэатры "Адэон" кіпрскага горада Пафаса. Сёлета ён сабраў удзельнікаў з шасці краін свету: ЗША, Лівана, Латвіі, Англіі, Беларусі і Грэцыі. На фестывалі спектаклі не размяркоўваюцца па прызавых месцах — усім удзельнікам выдаюцца сертыфікаты. Але фестываль збірае шмат прафесіяналаў у галіне тэатральнага мастацтва і выдатных знаўцаў антычнай культуры, якія прымаюць удзел у абмеркаванні ўбачаных спектакляў. Фестываль адметны сваёй творчай майстэрняй па старажытнагрэчаскай драме, якую для студэнтаў штогод арганізуе Нікас Шыафкаліс, дырэктар фестывалю і генеральны сакратар Кіпрскага цэнтра Міжнароднага інстытута тэатра. Ён запрашае прафесараў з Еўропы, якія спецыялізуюцца на антычнай культуры і драме ў прыватнасці. Акрамя таго, студэнтам карысна папросту адчуць саму атмасферу гэтага месца, пабачыць бухту Афрадзіты, пабываць у музеі Дзіяніса. Усё гэта вельмі дапамае студэнтам зразумець антычную культуру і яе крыніцы.

**— Які спектакль вы падрыхтавалі для паказу на кіпрскім фестывалі, і як паставіліся да яго гледачы!**

Беларусы ўдзельнічаюць у гэтым фестывалі ўжо трэці год запар. Папярэднія выступы колішняй выпускніцы Беларускай акадэміі мастацтваў Ілоны Казакевіч і студэнцкай групы пад кіраўніцтвам прафесара Алы Шагідзевіч былі настолькі ўдалымі, што ад нас ужо чакалі дзіва, чакалі падзеі. "Здзіўляць" мы вырашылі монаспектаклем па знакамітай еўрыпідаўскай "Медэі", які я, як рэжысёр і педагог, паставіла з Надзеяй Алёшачкінай, студэнткай 4—га курса Беларускага універсітэта культуры. На мой погляд, Надзея адорана рэдкім дарам сапраўднай трагічнай актрысы, які мы і паспрабавалі выявіць у нашым трыццаціхвілінным спектаклі. З вялікай п`есы мы выбралі тры ключавыя маналогі Медэі. Часам актрыса — распавядальніца, часам — сама Медэя. Вялікая роля ў нашым спектаклі адведзена музыцы грэчаскага кампазітара Зеўса Апалона (гэта, напэўна, яго псеўданім), якая напоўнена шумамі мора, крыкамі чаек. У дадатак да гэтага мы запісалі гукі грому — нібыта голасу Зеўса—грамавержца. Спектакль быў зразумелы і без перакладу — там усе выдатна ведаюць сюжэт "Медэі". Ігралі мы без ніводнай рэпетыцыі ў нязвыклых умовах. Дома рэпеціравалі ў сценах вучэбнай аўдыторыі, а тут актрыса апынулася сам-насам з вялізным антычным амфітэатрам пад адкрытым небам. Нам жа з Зінаідай Пасюцінай, кіраўніцай Надзінага курса, прыйшлося працаваць света-і гукаапаратамі. Але нягледзячы на ўсе складанасці, наша трактоўка твора была выдатна прынята тэатраламі і знаўцамі антычнай літаратуры.

**— Ці ўбачыць вашу "Медэю" мінскі глядач!**

— Мяркую, неўзабаве мы павялічым гэтую студэнцкую працу да гадзіны і зробім з яе паўнавартасны монаспектакль. Кідаць гэтую працу зараз нельга — яна дапаможа Надзеі ў яе прафесійным развіцці. Да таго ж я спадзяюся, што яшчэ не раз пакажам "Медэю" і ў Мінску, і на замежных фестывалях.

**— Спектаклі Рускага тэатра бяруць сёння ўдзел у якіх-небудзь замежных фестывалях!**

— Напрыклад, наш "Барыс Гадуноў" летась пабываў на фестывалях у Кіеве і Вроцлаве. А ў гэтым годзе "Рахманая" заслужанага артыста РБ Уладзіміра Шэлестава ўдзельнічала ў кіеўскім фестывалі монаспектакляў "Відлуння—2002", гэты ж спектакль атрымаў запрашэнні ў Маскву і Германію. Пасля маскоўскага фестывалю "Рахманая" паедзе ў Новасібірск. Адну з самых цікавых прапаноў мы атрымалі з Каіра, дзе 3—10 верасня пройдзе міжнародны фестываль эксперыментальных тэатраў. Туды ад нашага тэатра адпраўляюцца 15 чалавек з літаратурна—музычна—рамантычнай навелай "Ноч у Вальпараіса...".

**— Восенню Рускаму тэатру спаўняецца 70 год. Калі адбудзецца афіцыйнае святкаванне юбілею!**

**СЛУХАЙ СВАЁ**

# "КРАМБАМБУЛЯ"— НАША ПІТВО!

По сваёй структуры і задуме гэты кампакт-дыск можна назваць іранічнай містыфікацыяй. Застольны альбом "Крамбамбуля" ўзнік пад уплывам віннага смаку, ён ім прасякнуты і прысвечаны розным відам спіртуозных напояў і культуры іх ужывання. Дык чаму ж мы назвалі дыск містыфікацыяй? А таму, што пад прозвішчамі аўтараў песень, кштапту Б. Дыяніса, Дж. Уокера, Ю. Нацадзіў, К. Кілішкевіча, Б. Гарачкі, Ф.-А. Куфэля хаваецца асоба даволі вядомая сярод беларускіх рок-музыкаў і прыхільнікаў гурта "NRM" – Лявон Вольскі. Менавіта гэты музыкант "пераклаў" словы песень многіх народаў свету, прысвечаных ці то віскі, ці то к'янці, ці то кумысу, ці то тэкіле, ці то "Гінэсу", на беларускую мову...

Але "Крамбамбуля" не толькі таленавітая містыфікацыя, апе і ні на што непадобная стылізацыя пад музычныя рытмы народаў свету. Удзельнікі праекта, які таксама названы "Крамбамбуля", праявілі шмат выдумкі і прафесіяналізму для надання музычнаму матэрыялу падобнасці да арыгінала. Гэта тычыцца і кантры-балады "Куфаль піва, келіх віскі", і цыганскіх напеваў "Нам гарэлкі будзе мала", і настальгічнай песні "Абсэнт" у духу француза Джо Дасэна, і трагічнай балады "Маленькі жаўнерык" у квазі-фалькпорным нямецкім стылі...

На мой погляд, адныімі з самых цікавых на дыску могуць лічыцца такія стылізацыі, як "Кумыс", пабудавана ў незвычайнай рэп-манеры на ўсходнія матывы. Яшчэ адна адсылка да савецкіх часоў – песня "Савецкае шампанскае". Зроблена яна пад уплывам спадчыны савецкіх вакальна-інструментальных ансамбляў родам з Сярэдняй Азіі і іх неўміручых хітоў, кшталту "Учкудук – тры калодзежы"...

Беларуская тэма на альбоме "Крамбамбуля" яскрава прагучала ў баладзе "Пане Каханку", стылізаванай пад настальгічнае танга, якое запісана пад відам старой грамафоннай кружэлкі. Што ж да тэксту гэтай песні, дык яна можа лічыцца ўзорнай адноса іранічнасці ў вершах і гульні рыфмаў: "Але пагулянка/ Народ не дзівіла,/ Бо Пане Каханку/ Быў Радзівілам,/ Бо быў ён магнатам,/ Магнатам багатым,/ Магнатам вядомым/ У свеце і дома./"

Зноў жа здзіўляе слухачоў універсальнасць асобы Лявона Вольскага, якому так лёгка ўдаецца ўваходзіць у вобразы выканаўцаў розных нацыянальнасцяў, але пры гэтым захоўваць беларускую душу і мову. Слухачам, безумоўна, будзе цікава акунуцца ў нешта экзатычнае з нашага, беларускага, пункту гледжання. Таму стваральнікі "Крамбамбулі" запрашаюць адведаць грэчаскіх рытмаў сіртакі ў песні "Прадай гітару, купі віна", альбо пасмакаваць італьянскага бельканта і тарантэлы ў песні "Грапа, к'янці і марціні".

Цікава, што новы альбом Лявона Вольскага і яго сяброў быў запісаны ў польскім горадзе Лодзі пры дапамозе знаёмых тамтэйшых музыкаў ды ўдзельнікаў гурта "Proletaryat". Але асаблівую атмасферу дыску надае ўдзел у запісе такіх знаных беларускіх рок-музыкаў, як гітарыст Сяргей Кахановіч, бас-гітарыст Уладзіслаў Плюшчаў, барабаншчык Аляксандр Быкаў, перкусіяніст Масуд Талібані. Ну а сам Лявон Вольскі не толькі спяваў, але і граў на гітары, губным гармоніку, клавішных інструментах...

Стваральнікі застольнага альбома "Крамбамбуля" звяртаюцца да сваіх патэнцыяльных слухачоў: "Таму давайце сядзем за стол і будзем весяліцца, натуральна толькі, не да поўнага ачмурэння. Бо што ж пра нас падумаюць замежныя госці? Будзем атрымліваць асалоду ад зносінаў, ад букету, ад водару. Ад




спалучэння ўсяга гэтага." Гэты альбом, відавочна, добры дадатак да сяброўскай сустрэчы, да сяброўскай размовы і добрых пажаданняў гасцям і гаспадарам.

Як паведаміў нам Лявон Вольскі, хутка трэба чакаць працягу праекта—альбома "Крамбамбуля-2", які абяцае нечаканыя сустрэчы з новымі напоямі многіх народаў. Запісваць ён будзе ўжо ў Беларусі і таму яго стваральнікі маюць магчымасць пашырыць інструментальную палітру ( перапрашаю, палітру!) за кошт прыцягнення духавой групы і многіх сесіённых музыкантаў.

На завяршэнне дададзім, што ідэя "Крамбамбулі" была пачэрпнута (!) з цудоўнай кнігі Э.Зайкоўскага і Г. Тычкі "Старадаўняя беларуская кухня", дзе прыведзены неўміручы рэцэпт класічнага беларускага пітва.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# «СЫС»

Новы зборнік паэзіі Анатоля Сыса, выпушчаны выдавецтвам "Мастацкая літаратура" у афармленні мастака А.Марачкіна, немагчыма знайсці ў кнігарнях сярод пярэста-размаітага кніжнага разводдзя. Назву ён мае простую і дакладную -- "Сыс". І апякае: беспамылковай дакладнасцю, абвостранымі пачуццямі нязгоды і болю, параленізмамі крывава-перакуленай супярэчлівасці з прывіднымі ўяўленнямі Пікаса і Далі. Раздзелы "Пан Лес", "Агмень", "Ягамосць" -- вынік і плён паэтавых пошукаў, што "заўсёды з прожылкам крыві", свайго, выпакутаванага стаўлення да той невытлумачальна-неспасцігальнай субстанцыі, што штурхае "зноў на д'яблавыя кругі", дзе "лёс папругай б'е", да рэчаіснасці, што "як гостры нож", да назаўсёды непарыўнай знітаванасці з той незвычайнай зямлёй, якая завецца Беларуссю. І ад-




вечнымі каштоўнасцямі ў вірлівым коле балюча-наканаванага, што няўмольна набліжаецца, -- не збочыць, не адхіліцца, не спыніцца, -- былі, ёсць, будуць і назаўжды застануцца маці -- "Неапаленая Купіна", мова, што "далася крывёю", бацькоўскае поле, на якім "мой радавод вёў летапіс свой плугам", усё тое, што і складае ёмістае паняцце -- Радзіма, без якой не жыць, не дыхаць, не існаваць паэту, для якога "сузор'е ўзышло з трох зорак -- трынаццатым знакам сэрца". Яскрава і відавочна паўстае грозны свет, дзе гучаць прарочыя словы:

*Бог жыве!*
*Адраджэння прагнуць,*
*хто пакінуў заўчасна свет,*
*ад пакутаў нябёсы смягнуць --*
*гэта знак, што ідзе Паэт.*

Ідзе бадзяга, вандроўнік, злодзей, выючы і несучы свой -- ад нараджэння і да скону беларускі -- крыж, не абмінаючы гаротнікаў, праз болі страты, бязладдзе і бездухоўнасць зямлі, "на якой не растуць дрэвы", дзе "муза змрочная маўчыць, а сапаўі галосяць", праз вусціш і пакуты ідзе, каб выйсці да Шляху Чалавечага, каб спасцігнуць і давесці неад'емную роднасць усяго існага: чорнага і белага, чалавека і агню, памкнення і ўчынкаў, гісторыі і пакуль яшчэ цьмянай будучыні. Славутыя постаці беларускай мінуўшчыны -- і побач залюстроўе сучаснасці. Эстэтыка "наадварот" -- і мары пра сына. Сляпыя і відушчыя, адчай і надзея, кроў і зерне -- нябёсы і апраметная, бо "згападаўся я без долі й волі". Нянавісць і пяшчота, блаславенне і праклён, малітва і адрачэнне. Святое і грэшнае, падзенне і ўзлёт. Маленькія празаічныя роздумы сярод вершаваных радкоў... І мудрае спадзяванне-парада:

*Як па зорках, па расе*
*твой апошні шлях праляжа,*
*памірай, а жыта сей.*
*Рунь пра сейбіта расказа.*

Думаецца, паэтычны зборнік, што адразу пасля выхаду зрабіўся рэдкасцю -- хоць і чаканая, але выбітная і адметная з'ява нашай літаратуры.

**Марыя РУДОВІЧ**

## ПАЭЗІЯ

**Віктар Ярац**



# ШЛЯХІ БЯССОННЯ

### Адна

*Пад небам веснавога грому,*
*траву спалоўшы на кладах,*
*адна вяртаешся дадому*
*пад сонцам абагрэты дах.*

*Адчыніш дзверы -- адгукнецца*
*карэц вадою даўніны*
*І квасам, што калісьці сенцы*
*хмяліў улетку ночы й дні.*

*Не скрыпнуць мытыя масніцы --*
*спагадліва ўздыхнуць журбой.*
*Вячэрні промень прымасціцца*
*ў кутку пад столлю над табой.*

*А ноччу ў сны, зыбчэй за чоўны,*
*пастукаюць з дарог якіх*
*вандроўнікі ў апратцы чорнай,*
*палоннікі шляхоў нямых?*

### Трыпціх начэй

***Прысвячаецца Ніне Тарас***

1

*Расколе вышыня маўчання лёд.*
*Глыбокі снег на паплавах*
*растане.*
*Міграцыя -- нялёгкі пералёт --*
*агучыць галасамі ноч і ранне.*

*Турботна гляне ўдалеч з-пад рукі*
*па-іншаму пад сонцам дзень*
*будзённы,*
*і вёснаў сувязныя -- жаўрукі --*
*разбудзяць дол, жывых карэнняў*
*поўны.*

*Ад крыг цяжкіх не стане*
*ні сляда.*
*Аблокі прывітаюцца, як людзі.*
*Шырокая сцюдзёная вада*
*чыіх начэй бяссонных*
*не астудзіць?*

*Шляхі бяссоння -- доўгія шляхі...*

2

*Зноў маладых садоў мяцеліца,*
*здаецца, з ног саб'е святлом.*
*Ізноў у добрае паверыцца*
*пад кожным дрэвам і акном.*

*Калі спазнаў з людзьмі*
*напоўніцу*
*вагу слязы, пякучых страт,*
*сустрэчнай зёлцы, сцежцы*
*моліцца*
*смугой ахутаны пагляд.*

*А сэрца -- не вароты церама --*
*святло лагоднай вышыні*
*прывеціць.*
*А ці сыдуць з цемраю*
*начэй калючыя агні?*

3

*На галінах дрэў -- цяжар вышынь*
*і гадоў, пражытых недарэмна:*
*лісцем цалавалі ліўняў сінь,*
*грэлі ў сцюжу дол карэннем*
*крэўны,*
*калыхалі ў гнёздах птушанят,*
*абдымалі гром, вятры і ціш...*

*Ты маўчыш аб чым сягоння, сад,*
*у начах дыханне затаіўшы?*

### Чаканне зор

*Нібы абрабаваны, дзень нямеў.*
*Згасалі промні між дамоў*
*бетонных.*
*Што вецер меў -- хаваў*
*у кронах дрэў.*
*Цяклі хвіліны ў акіян*
*бяздонны...*
*Быў кожны гук -- як дождж*
*для траў сухіх.*
*Выглядваў я мелодыі арбіту --*
*зямны глядач і ўдзельнік*
*сцэн зямных,*
*падзёншчык мітусні, заложнік*
*быту.*

### Маці і дрэвы

*Вартаўнікамі хат, дзе цішыню*
*Мышынымі зубамі точаць ночы,*
*жанчыны моўчкі давяраюць дню*
*харошы сон (каб толькі*
*не сурочыць!).*

*Старэнькія матулі на зямлі,*
*дзе беды асыпалі косы беллю,*
*як лодкі, што на востраў*
*заплылі*
*праз буры над вірамі і над*
*меллю.*

*Не вельмі цешыць неба зрок*
*і слых*
*на востраве самотнага чакання,*
*а дрэў галіны векавых, сівых*
*спагадліва вітаюцца шторанне.*

*І не бяднее ветласці запас.*
*Пачуць адно ахвочы дрэвы*
*толькі:*
*Як ціха сэрцы адмяраюць час*
*І грэюць вочы позіркамі голькі.*

*Старэнькія матулі на зямлі,*
*старыя дрэвы -- рэха вёснаў*
*розных.*

*Тут сонца лашчыць гнёзды*
*на галлі,*
*як маці ў снах дзяцей, даўно*
*дарослых.*

### Палескі дзед

*З яго і слова выцісніць*
*пры стрэчы*
*Не кожны зможа, хоць калісь*
*было:*
*ягоны спеў ляцеў у майскі вечар*
*над сцежкамі далёка за сяло.*

*Даўно за дзедам каркаюць*
*вароны,*
*крычыць груган: -- Ты не*
*жылец, слабак!*
*А ён куляе чарку самагону*
*і моўчкі смаліць самакрутку*
*ўсмак.*

*Ідзе з канём на поплаў,*
*як сутонне*
*агортвае алешнік і сады.*
*Ён помніць шмат. Зірні --*
*падкажуць скроні*
*пра доўгі шлях, якім прайшлі*
*гады.*

### Збеглыя дні

***Прысвячаецца Генадзю Бураўкіну***

*Спеў ляцеў над буднямі*
*і святамі,*
*і высокі быў нябесны дах;*
*І душу вятры лавілі й сваталі*
*на вакзалах, прыстанях,*
*мастах.*

*І плылі рачнымі перакатамі*
*воблакі з палескай стараны,*
*а ні ў чым яшчэ не вінаватыя,*
*светлыя, нібы дзяцінства сны.*

*У дубровах пад густымі шатамі*
*дыхалі магутнасцю камлі --*
*некранутыя прыблудным*
*атамам*
*векавыя волаты зямлі.*

*І бароў карэнне вузлаватае*
*абдымала сцежкі, па якіх*
*дзеці неслі кошыкі багатыя --*
*поўныя баравікоў тугіх.*

*Дзе той час, шчаслівы час,*
*дзе стратамі*
*не гарчыць ручэй вады жывой?*
*Збеглі дні -- не зебры паласатыя --*
*у саваны Афрыкі сваёй.*



## Чырвоная ружа

"Стары дурань, што я нарабіў", — паўтараў ён пра сябе, а ногі нібы назло, усё шпарчэй неслі яго да метро, і да таго прыпынку, і да масіўных дзвярэй тэатра, дзе ўжо тоўпіўся народ, і дзе недзе павінна была быць яна...

Гэта яна затэлефанавала яму ўчора і сказала, што яны маглі б схадзіць у тэатр, калі, канешне, ён хоча.

Госпадзі, канешне, ён хоча, ён усё жыццё марыў пайсці ў тэатр з маладой прыгожай жанчынай!.. А калі яшчэ ўлічыць, што прыехаў у гэты горад менавіта ў тэатр — галоўным рэжысёрам з правінцыі, дзе ўжо надакучала быць мясцовай зоркай, дзе стаміўся бачыць на спектаклях адны і тыя ж твары, дзе былыя школьнікі і захопленыя школьніцы станавіліся праз гады рознымі начальнікамі.

Тэатр, куды яго запрасілі, быў, вядома, не самы лепшы, не самы цэнтральны, але ўсё ж як-ніяк сталічны. Тады яго рашэнне здзівіла ўсіх. І ў першую чаргу, сямейнікаў. Нават дачка, студэнтка журфака, якая жыла ў інтэрнаце, і здавалася б, павінна была б узрадавацца, што бацькі едуць да яе, і то казала:

— Тата, а ты добра падумаў? — Тут ты ўсё ж першы і адзіны, а там, у твае сорак сем, пачынаць трэба ўсё спачатку.

Жонка ж ціха плакала. Яна працавала ў яго тэатры спачатку метадыстам, потым проста касірам, чакала пенсіі. Быт наладжаны, кватэра выдатная, дача побач, у горадзе маці, браты, якія пераехалі з вёскі сюды, дзякуючы яго і яе намаганням...

Але ён рашыў. І ўсё спачатку: і кватэра без прапіскі, дзе пасяліўся за 60 долараў у месяц разам з дачкой, і новы калектыў, і касыя погляды нядобразычліўцаў. Хто мог ведаць, што праз год ён апынецца ў міністэрстве, а затым лёс вынесе яго на пасаду мастацкага кіраўніка філармоніі, чалавека, ад якога залежыць лёс многіх вядомых "зорак", рэжысёраў, цэлых калектываў...

А тут, сёння, у тэатр, як студэнт, на спатканне... "Ну не зусім, як студэнт..." — усміхнуўся пра сябе ён. Адразу пасля яе тэлефанавання ён набраў нумар дырэктара самага галоўнага тэатра краіны.

— Іванавіч, што ў вас заўтра? Тут у мяне госць адзін заезджы...

І пачуўшы, што запрашальныя ва ўрадавую ложу прынясуць яму ў прыёмную праз гадзіну, задаволена паклаў трубку.

Каля дзвярэй, як звычайна, было людна. Ён азіраўся па баках, стараючыся выглядзець яе ў натоўпе, але яна сама нягучна гукнула яго...

Ён азірнуўся. Яна стаяла, маленькая і тоненькая, як дзяўчо, у лёгкім асеннім паліто. "Стары дурань", — зноў падумаў ён, углядаючыся ў рысы яе твару, вялікія зялёныя вочы, у маладыя вусны, ледзь кранутыя ружовай памадай.

— А я вось прама з заняткаў, — сказала яна. — Курсавыя правярала.

Пазнаёміліся яны недзе паўгода таму. Тады дэкан тэатральнага факультэта іхняй альма-матэр, былы аднакурснік, запрасіў яго на святкаванне юбілею іхняга факультэта, папрасіў сказаць прамову.

Ехаць не вельмі хацелася, але сябра так настойваў, што давялося згадзіцца.

Нечакана для сябе застаўся на банкет. А там — танцы, жанчыны. Спачатку танцаваў са знаёмай актрысай, але потым не стаў запрашаць прарэктар, а ён, азіраючыся па баках, раптам заўважыў яе. Яна і тады нагадвала выпускніцу-школьніцу: строгая доўгая суконка, распушчаныя светлыя валасы і вялікія, шырока раскрытыя вочы.

Ён, памятаецца, тады абняў яе за плечы, а яна неяк даверліва прыхілілася да яго. Ад яе валасоў пахла ветрам, маладосцю, рукі з вузкімі доўгімі пальцамі былі халодныя, як лядзяшкі. Яму раптам захацелася яе пацалаваць. Такога з ім не здаралася гадоў дваццаць.

Увесь вечар ён танцаваў толькі з ёй. Потым ехалі на апошнім тралейбусе ў новы мікрараён на самы ўскраек горада, а адтуль на таксі дадому.

У яго хапіла тады розуму не патэлефанаваць ёй назаўтра, хоць тэлефоны — рабочы і хатні — яна яму дала проста і лёгка, без якіх-небудзь ваганняў. Ужо надта розныя былі яны — ён, пяцідзесяцігадовы, стомлены вечнымі пошукамі сябе, і яна, нядаўняя аспірантка, маці дванаццацігадовага Віціка, жонка невядомага Міколы — інструктара па кіраванні аўтамабіля, якая жыла з імі, а яшчэ з маці, бацькам і пляменнікам у трохпакаёвай кватэры.

Патэлефанаваў ён ёй толькі ў навагоднюю ноч. Яна, як яму падалося, радасна адгукнулася і пажадала яму і яго сям'і шчаслівага года.

Наступны яго званок прыйшоўся ўжо на восьмае сакавіка. Яму тады было пагана на душы. Яна, нібы адчуўшы гэта, сказала:

— А я тэлефанавала вам 23 лютага, не знайшла на рабоце. Хацела павіншаваць.

Вось тады ён і прапанаваў сустрэцца, калі яна, канешне, захоча. І сказаў, што будзе чакаць яе званка.

Прайшло яшчэ два тыдні. І вось яна ля тэатра.

Ва ўрадавай ложы сядзець было нязручна. Здаецца, што іх бачылі адусюль: і з партэра, і з балконаў. Яго ўжо многія ў горадзе ведалі, і ён адчуваў сябе ніякавата.

Улучыўшы момант, ён узяў яе далонь у сваю. Яна не пярэчыла. Пальцы былі такія ж халодныя, як і ў мінулы раз. Раптам яго ахапіла такая пяшчота, што захацелася ўзяць яе на рукі, прытуліць да грудзей.

Потым яны ішлі па горадзе. Падаў мокры снег. Яна паставіла каўнерык паліто, ён абняў яе за плечы. "Падумаюць, бацька дачку прытуліў" — зноў іранічна пасміхаўся пра сябе.

Па яго прапанове яны перайшлі на "ты". Ён расказаў ёй і пра жонку, і пра дачку-журналістку, і пра сына-хакеіста, які іграе за мяжой...

У метро яна сама ўзяла яго пад руку і сказала:

— Шчырасць за шчырасць. Я кахаю мужа, але так хочацца свята...

А раніцай, прачнуўшыся побач з жонкай, ён раптам з нейкім радасным жалем зразумеў, што жыць без гэтай юнай жанчыны ўжо не зможа. Гэта было як тады, у час першага кахання, калі, здавалася, уласнае жыццё без яе, адзінай, не мае ніякага сэнсу.

І ён рабіў ёй свята. На канцэрце сусветна вядомага музыканта, у майстэрні цудоўнага мастака і сябра, ён марыў павезці яе на белыя ночы ў Піцер, на Браслаўскія азёры, ён жадаў яе як юнак сваю каханую. Ён быў шчаслівы.

Яны і цалаваліся, як школьнікі. У вусны адзін раз, і адзін раз у шчаку пры развітанні. Праўда, абдымаў ён яе па-мужчынску прагна, і яна тулілася да яго зусім не як дачка. Але да большага не даходзіла.

На працы ён заўважыў, што да яго сталі прыглядацца супрацоўніцы, а адна, рэжысёр, прыгажуня Ніна, нават аднойчы какетліва падміргнула, сказаўшы, што ён пасля моднай стрыжкі зусім яшчэ малады. Нават жонка аднойчы пажартавала:

— Што перад люстэркам круцішся? Нічога яшчэ мужык! Ці не закахаўся на старасці гадоў?

"Закахаўся, закахаўся", — хацелася крыкнуць ёй, але толькі крыва ўсміхнуўся і сказаў, знарок пазяхаючы:

— Скажаш! Няма таго, што раньш было...

...Прыйшла сапраўдная вясна. На праспекце распусціліся каштаны. Плыў п'янкі водар першай лістоты, траў. Было хораша і трывожна.

Ён чакаў яе ля бібліятэкі, куды яна хадзіла збіраць матэрыял для дысертацыі. Яна сама яму прызначыла сустрэчу менавіта там. У пераходзе ён купіў чырвоную ружу.

— Вам якую? — спытала прадаўшчыца.

— Каб не завяла, — пажартаваў ён, і дадаў, — ад гэтага шчасце будзе залежаць!..

Яна выйшла роўна ў тры, як і дамаўляліся. Убачыўшы ружу, зачырванелася, як дзіця і неяк уважліва-ўважліва паглядзела на яго.

Куды пойдзем? — запыталася потым, — у мяне часу толькі да шасці. Віцік сёння са школы раней прыйдзе, а бацькі на дачу з'ехалі.

— А муж?

— А што муж! Як звычайна — на працы.

Пра мужа яна заўсёды гаварыла неахвотна, затое Віціка згадвала часта. І пра тое, што ад камп'ютэра не адарваць, і што без яе сумуе... Апошнім часам у хаце паставілі тэлефон з вызначальнікам.

— Гэта каб мяне накрыць? — жартаваў ён.

— Нічога, я заўсёды сама да тэлефона падыходжу, — супакойвала яна.

Яны сядзелі ў кафэ. Яна заказала марожанае, ён — узбітыя вяршкі, баючыся застудзіць горла.

— Праўда, смачна? — пыталася яна. — Я ведала, табе спадабаецца!..

Ружа ляжала на століку. Ці то ад духаты, ці то ад недахопу свежага паветра, яна нібы сціснулася, пацямнела.

— Трэба было ў ваду паставіць, — захваляваўся ён.

— Нічога, зараз усё роўна пойдзем. Не завяне.

Ён правёў яе да тралейбуса.

Яна патэлефанавала праз тры дні.

— А што з ружай тады? — роблена бадзёра пацікавіўся ён, — не завяла?

— Завяла, — проста адказала яна. — Ды ты не хвалюйся. Усё роўна я табе ўдзячна. Мне так доўга ніхто не прыносіў кветак.

А яшчэ праз тыдзень, калі яны дамовіліся, што ён затэлефануе ёй з раніцы, у трубцы пачуўся малады мужчынскі голас.

Ён не стаў гаварыць, а з паўгадзіны моўчкі сядзеў ля тэлефона. Потым выйшаў на вуліцу і пасунуўся да аўтамата.

На гэты раз адказала яна. Голас быў напружаны і звонкі.

— Ты ведаеш, мы, напэўна, не будзем болей сустракацца. Ты, відаць, здагадаўся, чаму. Я жадаю табе ўсяго лепшага!

Гэтыя словы і цяпер стаяць у яго ўвушшу.

"Чырвоная ружа, не стой на дарозе", — гучаў у галаве знаёмы матыў. Спачатку ён думаў не жыць. Потым хацеў знайсці, сустрэць яе, сказаць, што без яе яго не будзе болей як чалавека, што ён кіне ўсё дзеля яе — і сям'ю, і працу, і горад... Потым ён стаў хадзіць у госці да рэжысёркі Ніны, якая жыла адна, піў з ёй каву і шампанскае, а потым знік, і на яе званкі не адказваў.

Ён нават спрабаваў пісаць вершы. Але прачытаўшы, рваў лісткі паперы на дробненькія кавалкі.

Аднойчы ён зайшоў у знаёмы магазін кветак. Прадаўшчыца нібыта нават пазнала яго.

— Вы ведаеце, — нечакана прызнаўся ён, — кветка тады завяла, і жанчына мяне кінула.

— Ну, як кінула, так і вернецца! Знаеце, якія мы зменлівыя! Купіце яшчэ адну, і верце, што ўсё будзе добра.

Цяпер ён раз на тыдзень купляе ружу. Ён навучыўся ставіць кветкі ў ваду так, што яны доўга не вянуць. І тады раптам стаў верыць, што калі-небудзь яна, яго апошняе каханне, вернецца. А інакш — для чаго яму ўсё гэта патрэбна?

# БЕЛАЯ КРОЎ

## З новай кнігі



## Сябра

— Што здарылася? — спытаў ён незадаволена ў трубцы.

— Нічога, — разгублена адказаў я. — Нічога не здарылася, проста голасу твайго даўно не чуў.

Сябра мой яўна за нешта на мяне пакрыўдзіўся. Крыўдзіцца ён лёгка, асабліва, калі вызваляецца ад пачуцця абавязку. А тут, здаецца, якраз такі момант: доўг, які за ім лічыўся тры гады, ён мне аддаў, ды і няма зараз ніякай у яго патрэбы, каб я яму ў нечым дапамагаў. Гэта раней было: у інстытут рыхтаваў, на работу ўладкоўваў, сум развяваў, на рыбалку вазіў...

— Нешта ў вас сяброўства аднабокае, — казала некалі яшчэ маці-нябожчыца. — Усё ты — яму, а ён пра цябе ці думае?

Здавалася, што думае. Мне заўсёды было з ім лёгка і проста. Наш трэці сябрук, каржакаваты, магутны, спартсмен і крыху хуліган раўнаваў мяне да яго і злаваўся:

— Ты заўсёды з ім, бо думаць не трэба.

Думаць было трэба, але з Лёшкай сапраўды думаць не хацелася. Мы чапляліся на вуліцы да дзяўчат, мы каталіся на лыжах, мы рабілі вандроўкі па азёрах.

Потым ён жаніўся. Першы з нас, запрасіўшы на вяселле і маю каханую дзяўчыну, якая, як мы ведалі, любіла толькі яго.

Потым я лётаў да яго за пяць тысяч кіламетраў у далёкую Сярэднюю Азію, потым уладкоўваў яго ў інстытут, на адну працу, на другую. Потым складаў кампанію яму і маладой прыгожай мастачцы, дзеля якой ён кінуў жонку, тую, з якой ажаніўся ў 20 год.

Нас з ім удваіх білі. Не моцна, але не раз. І я не кінуў яго, ён мяне — таксама. Мы пахавалі бацькоў, і я ў гэтыя часы заўсёды быў з ім, а ён — са мной. Мы сварыліся, і было што два гады не размаўлялі.

Мы разам ездзілі на прыроду ўжо сем'ямі, ён спачатку адной, потым — другой, а я — усё той жа.

Былі дні, калі мы не маглі не сустракацца кожны дзень, былі гады, калі мы не бачыліся доўга.

Цяпер ён кажа, што любіць бываць адзін і што лепшы ў жыцці стан — адзінота. Дакладней, казаў, бо пасля апошняга майго званка мы не гаварылі ўжо больш, як паўгода.

А можа, гэта мая віна? Так, гэта, відаць, я, калі мне становіцца крыху лягчэй, менш думаю пра яго: свая кашуля бліжэй да цела?

А каму мне расказаць пра новых сяброў і новыя задумы, каму расказаць пра юную жанчыну з валасамі, што пахнуць ветрам, з кім падзяліцца горыччу ад чарговай здрады, з кім падыміць пад пласцінку Вівальдзі ў паўцёмнай майстэрні? Час ідзе. Нам было — шаснаццаць. Нам было трыццаць, нам было сорак пяць...

Хто каму цяпер затэлефануе першы?

Не будзем спяшацца. У нас яшчэ ёсць часу.

## Пазнаў

Прыемна, канешне, калі цябе пазнаюць на вуліцы. Але гэта толькі на пачатку. А потым, асабліва, калі ідзеш з сябрам пасля банкета або з маладой жанчынай пад руку з тэатра... Лепш тады быць незаўважным.

Ды што ні кажы, а слава бывае часам рэч карысная. У гэтым пераконваўся неаднойчы. А вось самы свежы прыклад.

Аднойчы так захацелася ў лазню, няма сілы. А сябры, як назло раз'ехаліся хто куды. Аднаму стаяць у чарзе — лянота. Ды нічога не паробіш, сабраў рэчы і рушыў парыцца.

Мужыкі сядзяць, венікі прадаюць, а лазня не працуе. Вады гарачай няма.

— А чаго ж вы венікі прадаяце? — пытаюся.

— Ды так! А ты язджай на вуліцу Бядулі. Там лазня працуе.

Саджуся на трамвай і еду. Прыязджаю, лазня працуе, а ў касе білетаў не даюць.

— Перапынак, — кажа касірка, — з двух да трох!

— Ды зараз толькі палова на другую! Я ўвесь горад праехаў. Пусціце хоць на паўгадзіны!

— Вось калі ён пусціць, ідзіце, — кажа касірка.

Ён — гэта электрык. Ён парылку на гадзіну адключыць павінен. Убачыў мяне, ды раптам шырока так усміхаецца:

— Праходзьце, калі ласка! Парцеся, колькі трэба.

Іду за ім і думаю: няўжо пазнаў? Можа, калі па тэлебачанні бачыў, ці на выступленні якім. А ён яшчэ раз паўтарае:

— Вы парцеся смела. Выключу, калі скажаце.

Сяджу я ў парылцы адзін. У лазні перапынак, нікога няма. А электрык раз-пораз заходзіць і супакойвае:

— Не спяшайцеся, мыйцеся колькі трэба.

Памыўся я, напарыўся, выйшаў у перадлазнік, сохну. А электрык:

— Ну як? Спадабалася ў нас?

— Спадабалася, — кажу, — дзякуй вялікі!

— На здароўе, маглі б яшчэ папарыцца. Для такіх людзей не шкода. Думаеце я не пазнаў?

"Во", — думаю, — "нарэшце".

— Вы ж Газаеў, галоўны трэнер зборнай Расіі?

— Амаль што, — разгублена мармычу.

— Не, амаль, дакладна. Я вас адразу пазнаў.

Такая вось "папулярнасць" выйшла.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Яшчэ яго мама часта любіла казаць: "Ззаду пакінеш — наперадзе падымеш". Так і жыў, абганяючы свой час, мала кім зразуметы. Я толькі цяпер дапяў да ідэі выдадзеных яшчэ ў часы СССР ""Карнікаў" — ужо тады ён змог убачыць і перадаць гора адной асобнай беларускай вёскі ў агульным кантэксце напаўзаючай сусветнай бяды.

Ён быў не толькі сумленнем нацыі, а — сумленнем часу. І хто ведае, калі б не сышлі заўчасна ад нас Алесь Адамовіч і Андрэй Сахараў, як бы мы сёння жылі. Ва ўсякім выпадку такой катэгорыі, як "сумленне", у нас было б болей...

Вось за гэтым сталом, на гэтай канапе ў 1987 годзе побач сядзелі Быкаў, Барадулін, іншыя сябры і адзначалі 60-гадовы юбілей Адамовіча. Ма́рылі. Абяцалі адзін аднаму сустрэцца за гэтым жа сталом у 2000 годзе — XXI стагоддзе тады здавалася яшчэ такім далёкім. Мара — дажыць. Дажылі. Але без яго...

* * *

"...Самога здзіўляюць тры мае спраўджаныя прагнозы. Першы: на IV з'ездзе народных дэпутатаў СССР, гэта было 20 снежня 1990 г. (за тры тыдні да крывапускання ў Вільнюсе), я з трыбуны з'езда ска-









Фота Яўгена КОКТЫША

# ПРАЖЫТАЕ ДЗЕЛЯ БУДУЧЫНІ

## *ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА*

заў Гарбачову, што вельмі хутка генералы возьмуць яго ў палон, падштурхнуць да кравапраліцця, а пасля аб яго "вытруць свае рукі". І галоўнае (другое), напрарочыў, што віцэ-прэзідэнт, якога выбіраем (Янаеў) перахопіць у яго уладу.

А трэцяе: на пачатку лета 1991 г. з Г.Старавойтавай і А.Беляеўскім я быў у гасцях у Г.Кісінджэра ў Нью-Йорку. Ён распытваў у нас менавіта пра тое: якія прагнозы. Мой прагноз быў: восенню 1991 г. камуністычная партыя ў Расіі сыдзе з палітычнай арэны... Мы нават заклаліся".

* * *

"Ляжу з інфарктам, гляджу ў тэлевізар на прахожых людзей напярэдадні 1992 г. і шкада не сябе, а іх. Госпадзе, што чакае гэтых людзей!"

"Рыжкоў — у Парыж. Фільшын — у Аўстрыю, а ты — у магілу... Усе дэзерціры. Не, трэба вярнуцца і даць апошні бой — "заўтра бой!" — як збіраўся Сахараў. Калі й паміраць, то толькі так".

* * *

"...Перавезлі мяне ў Цэнтральную клініку. Сяджу з апаратам, хаджу, сплю, як паўлаўскі сабака... Патэлефанаваў Гарбачоў. Я яго падбадзёрыў".

* * *

"...Вось і надышоў час, і хочацца ва ўсіх папрасіць прабачэння. За тое, што ім так цяжка было побач са мной... Шкадаваць усіх і любіць іх — розныя рэчы..."

* * *

"Уся праўда ў тым, што памерці я хачу ў Беларусі, а пахавацца у Глушы. Там я звязаны з усім. Тут толькі ты. Гэта — для жыцця. А для вечнасці — Беларусь..."

Гэта ўрыўкі з апошняй кнігі Алеся Адамовіча "Пражытае", якая выйшла ў свет пасля яго смерці — памёр ён 26 студзеня 1994 г. у Маскве падчас суда, пасля свайго выступлення ў падтрымку Міжнароднага Літфонду па пытаннях уласнасці пісьменнікаў былога СССР. Пахаваны на радзіме, у Глушы Бабруйскага раёна.

**Алег КАРПОВІЧ**

*НА ЗДЫМКАХ: з Васілём Быкавым і Сяргеем Залыгіным; на паляванні; з дачкой Наталляй; з У. Высоцкім і М. Владзі на здымках фільма "Вайна пад стрэхамі"; з кінарэжысёрам Э. Клімавым; на радзіме; у кабінеце.*









**НАЎЗБОЧ**

# НАШАЙ ЗОСЬЦЫ — 110 ГАДОЎ!



Спадарыня Людвіка Сівіцкая (па мужу Войцік) нарадзілася ў 1892 годзе на Украіне, і не дажыўшы ўсяго аднаго года да рэшты свайго чалавечага веку, яшчэ заспела паўтара месяца беларускай незалежнасці (памерла ў Літве 8 кастрычніка 1991 года)...

У адных зямнога жыцця — толькі на птушыны палёт, а ў іншых на цэлы "адвечны шлях"... Нібыта ў Максіма Багдановіча і ў яе, Зоські Верас. І тут лепш, чым Данута Бічэль у сваім вершы "Сяброўства", наўрад ці скажаш:

**"Балацянога зелля хмельны верад**
**зачараваў тутэйшыя палі.**
**І Багдановіч, і Зоська Верас**
**зачараваны песняю былі.**
**А доля неласкавая гаворыць:**
**— А я сяброўства ваша пераб'ю.**
**Хай "верабей" палечыцца на моры!**
**На моры Чорным блага "вераб'ю".**

Узяў з даччынай палічкі яе "Каласкі", невялічкую кніжачку для дзяцей, гожа аформленую мастаком М.Басалыгам. І нават там, у замалёўцы 1916 года, натыкнуўся на спрадвечныя пасылы да нашых сённяшніх дзён:

"Не ведаю, якое імя тых сілаў, што будзяцца да жыцця ў парныя, цёмныя, летнія ночы...

Яны будзяцца, устаюць, падымаюцца і ўступаюць у барацьбу з тым спакоем, што так мазольна будаваў дзень ясны; у барацьбу за сваю свабоду..."

Што магла і ў рэшце рэшт зрабіла за сваё такое доўгае беларускае жыццё наша знаная нацыянал-патрыётка? Адрадзіла беларушчыну ва ўласным унутраным і навакольным свеце? Дадала свайго жалю-галасу ў знітаваным хоры змагароў за "родную старонку"? Ці проста, у адрозненне ад бальшыні, змагла ўсё-ткі "людзьмі звацца" — і чалавекам, і беларусам у адной асобе.

Знаючыся з М.Багдановічам, А.Смолічам, С.Рак-Міхайлоўскім, М.Гарэцкім, А.Уласавым, Ф.Шантырам, З.Бядулем, У.Галубком, Ядвігіным Ш., абы-як пра сваё не падумаеш... І садоўнікам і пчаляром будзеш, каб толькі жыццё ў бацькоўскім краі квітнела і горкім не было...

Таму — вучылася сама і вучыла іншых, пісала, выдавала, гадавала, дапамагала, прывячала... Адсюль і любоў нашая да яе і памяць. На 74 гады Максіма-кніжніка пражыла! Упартая. Дамаглася завешчанага продкамі. Перамалола ў жорнах свайго сэрца горкі бальшавіцкі ўмалот. Адолела наканаванае лёсам. Адным словам — стала сапраўднай Мамай (быў у яе, аказваецца, і такі псеўданім!) нашай нацыянальнай самасці...

"Не то, что нынешнее племя"... Бо ж зусім нядаўна, на прэс-канферэнцыі кіраўніка дзяржавы, наша калега задала Прэзідэнту РБ надта ж мудронае пытанне пра нацыянальную ідэю беларускай дзяржавы... на "русском языке" (пад непрыхаваны смяшок у зале), зазначу, — неўзабаве пасля таго, як на добрай беларускай мове задаў сваё пытанне акрэдытаваны ў нас карэспандэнт адной польскай газеты... На тым для мяне ўся тая прэс-канферэнцыя і скончылася, бо па сутнасці спадар Лукашэнка адказаў правільна: "не созрело еше все белорусское общество для серьезной национальной идеи"...

Во як, спадарыня Войцік. Чуеце там ці не?

"Няўжо ж так могуць паступаць сёння беларускія людзі?!" — спытаеце. "А хто яго ведзе" — адкажу я няўпэўнена.

Быў жа і вам аднойчы нядобры знак: у траўні 1990 года згарэла ваша лясная хата — своеасаблівы беларускі дом, якраз напярэдадні прыняцця Вярхоўным Саветам рэспублікі "Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР"...

Таму во так і жывём пакуль, на вас з сорамам азіраючыся. Але тыя, хто насамрэч — душой і розумам — беларусы, не забыліся яшчэ на вашыя словы і спрабуем быць.

**"Я не баюся жыццёвай буры,**
**хоць добра знаю яе шум пануры,**
**І змрочнага не баюся ценю**
**без ласкі цёплай сонка праменю,**
**і не баюся працаў мазольных**
**для рук бяздольных...**
**Але ж баюся я ўтраты веры,**
**траты энергіі баюся без меры,**
**баюся жыці без ідэалу,**
**бо ў чорнай пустцы сэрца б сканала...**
**больш чым цялеснай баюся смерці —**
**душой умерці..."**

**ЛеГал**

# ЖЫЦЬ ПА-ЕЎРАПЕЙСКУ, МАРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 5)**

му не варта ім гэтую з'яву "дзяліць". І на прэтэнзіі з боку некаторых нашых суседзяў сама гісторыя адказвае, што А.Міцкевіч – з'ява, безумоўна, адметная і для Беларусі.

Калі размаўлялі з К.Мацуурам пра тое, наколькі ён знаёмы з Беларуссю, наш госць сказаў: "Я Беларусь ведаю толькі па Марку Шагалу". Я зазначыў: *нам вельмі прыемна, што вы ведаеце* нашу краіну па Марку Шагалу, але Беларусь – гэта і Францыск Скарына, і Мікола Гусоўскі, і Сымон Будны, і Анастасія Слуцкая, і Еўфрасіння Полацкая. Гісторыя кожнай краіны "шматпавярховая", яна не можа засяроджвацца ў адным чалавеку. Добра, што пра нашага земляка М.Шагала ведае ўвесь свет. Але дрэнна, што мы не змаглі зрабіць так, каб пра нашых гістарычных асоб, якія ўнеслі вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры, ведаў таксама ўвесь свет.

**-- Уладзімір Несцеравіч, апроч нашых больш-менш дагледжаных і значных гістарычных асяродкаў, ёсць жа такія каштоўныя, але занядбаныя рэчы, як руіны ў Ружанах, у Гальшанах ці ацалелыя муры Косаўскага палаца...**

-- Ведаеце, я ўспомніў сярэдзіну 60-х, сваю маладосць, калі служыў у Савецкай Арміі. Служба мая доўжылася тры гады і праходзіла ў заходніх раёнах: Гродзенская вобласць, Слонім, Баранавічы... У нас праводзілася шмат вайсковых вучэнняў з выездамі, што называецца, "на мясцовасць". Вось там сустракалася шмат унікальных помнікаў: былыя фальваркі, панскія сядзібы... Асабліва цікава і прыгожа яны выглядалі ў маі, чэрвені, ліпені: лістота, квецень! Я захапляўся непаўторнай архітэктурай. І мне, 18-гадоваму, няўцям было, чаму гэта ўсё разбураецца. У той час як разважалі? Маўляў, навошта нам зберагаць маёнтак пана нейкага? А мне было вельмі прыкра, і я сказаў сам сабе, што робіцца вялікая памылка ў адносінах да старадаўняй спадчыны.

Вынікі той памылкі мы маем сёння: на вялікі жаль, аднавіць усё ўжо немагчыма, разбурэнні асобных помнікаў дасягнулі высокай ступені, а многае проста знішчана. Але тое каштоўнае, што засталося (і не толькі на Гродзеншчыне, у кожнай вобласці нешта яшчэ ёсць), мы абавязаныя аднавіць. Бо гэта – непаўторнае асяроддзе нашага жыцця. Цяпер, калі надараецца магчымасць сустрэцца з актывам, пагутарыць з людзьмі, заўсёды гавару: галоўнае, што ў нас павінна быць, -- гэта дастойнае асяроддзе жыцця чалавека. Калі яно ёсць, калі яно высока цывілізаванае і гістарычна звязанае з нашымі каранямі, калі яно адпавядае менталітэту, настрою чалавека, адпавядае яго будучыні, я лічу, што гэта – вялікі здабытак. У гарадах, паселішчах, дзе гісторыя пакінула нейкі след, ёсць годнасць і ў паводзінах чалавека, дысцыпліна, парадак і густ у жыццёвым укладзе. Успомніце, напрыклад, Нясвіж. Калі мы і Мір зробім унікальным асяродкам, думаю, там паменее негатыўных побытавых з'яў.

**-- Дазвольце, Уладзімір Несцеравіч, перавесці нашу размову ў "неафіцыйны фармат". Вы — чалавек з тэхнічнай адукацыяй, з багатым вопытам партыйнай, арганізатарскай, гаспадарчай, дзяржаўнай працы. Аднак яшчэ колькі гадоў таму журналісты, якія пішуць пра мастацтва, былі проста ўражаныя вашай неабыякавасцю да праблем са сферы эстэтыкі, асветніцтва, "лірыкі": вы так шчыра змагаліся за тое, каб у Нясвіжы, дзе тады працавалі, з'явіўся свой музычны фестываль. І ён жыве, і вы па-ранейшаму імкняцеся наведаць яго імпрэзы, і вашаму ўменню слухаць музыку маглі б павучыцца многія. Аказваецца, вы з маладосці захапляецеся і помнікамі архітэктуры. А ваша ідэя — стварыць на Беларусі жыццёвае асяроддзе, вартае *цывілізаваных і культурных еўрапейцаў*, уражвае сваёй глыбокай гуманістычнасцю і патрыятызмам. Напэўна, у вас было нейкае сваё, асаблівае жыццёвае асяроддзе, што ўплывала на асобу, у якой спалучыліся інтэлект аналітыка, светапогляд практыка, душа гуманітарыя...**

-- Лічу, што чалавек – гэта з'ява прыроды, якую мы павінны ўспрымаць такой, як ёсць. Але чалавек перш за ўсё залежыць ад генаў, што перадалі бацька і маці і пакаленні, якія жылі да іх. Сваіх продкаў па мужчынскай лініі ведаю ад 1750 года. Сярод іх былі людзі, якія добра валодалі скрыпкай, гралі на іншых музычных інструментах. Дзед мой разбіраўся ў астралогіі, чытаў па зорках, прадказваў.

Пра сябе ж магу сказаць, што к гэтаму часу я назапасіў пэўную суму жыццёвых ведаў. І ўдзячны найперш сваім бацькам, якія нарадзіліся і выраслі на вёсцы. Бацька, хаця скончыў толькі чатыры класы школы, меў добрую памяць, жыццёвую мудрасць, ведаў усе важныя гістарычныя моманты. Вельмі абавязковым і сумленным чалавекам у сваіх справах была маці. У нашай дружнай і працавітай сям'і гадавалася чацвёра дзяцей, ва ўсіх склалася годнае жыццё.

Цяпер вывучаю гісторыю сваёй вёскі Дражна, што ў Старадарожскім раёне. Аказваецца, гэта ў мінулым быў маёнтак Дражна, якім валодаў князь Радзівіл, а потым быў тут гаспадаром князь Вітгенштэйн. З часам уладанне ператварылася ў вёску, вёска была вялікая -- больш за 350 двароў, у гэтым асяродку я і гадаваўся.

Вельмі ўдзячны сваім школьным настаўнікам. Дарэчы, сёлета я пабываў на 135-годдзі школы, якую скончыў. Гэта было ў свой час народнае вучылішча, якое дало адукацыю многім дзецям з наваколля.

Таксама я ўдзячны сваім камандзірам у танкавай часці Савецкай Арміі. Лейтэнанты Вялікай Айчыннай вайны, сталыя баявыя камандзіры, цікавыя людзі, яны нас выхоўвалі, лічу, па высокай шкале. Армія нас фізічна падрыхтавала да жыцця, маральна загартавала, дала нямала патрэбных навыкаў.

**-- Да службы ў арміі вам давялося папрацаваць настаўнікам?**

-- Калі я заканчваў школу, дык марыў толькі пра адукацыю інжынера-механіка, бо ў той час на Беларусі вельмі шырока развівалася прамысловасць, машынабудаўнічая індустрыя. І я хацеў знайсці сваё месца ў гэтым працэсе. На аўтатрактарны факультэт БПІ (цяпер Беларускі нацыянальны тэхнічны універсітэт) я паступаў адразу пасля школы. Здаўшы экзамены паспяхова, не прайшоў па конкурсе: пяць чалавек на месца. Тады паслухаўся добрых людзей і пайшоў настаўнічаць у Прускую сярэднюю школу Старадарожскага раёна, пакуль не прызвалі ў армію. Пасля – аўтатрактарны факультэт. Потым – 12 гадоў працы на БелАЗе: унікальны калектыў!

Вельмі паўплывала на мяне і вучоба ў Мінскай ВПШ. Два гады на стацыянары далі магчымасць развіць гуманітарныя асновы сваёй адукацыі. Асабліва любіў такія прадметы, як літаратура, лектарскае майстэрства. Ва ўзросце 33-х гадоў прыехаў у Нясвіж і за амаль 20 гадоў працы тут змог рэалізаваць сябе, набыць палітычны досвед, асабліва ў такі незвычайны час, *на мяжы эпох, калі* змяніўся статус нашай Беларусі і з саюзнай рэспублікі яна стала суверэннай дзяржавай.

**-- Вы сумленна і адказна прайшлі ўсе прыступкі кар'еры кіраўніка: сакратар райкама партыі, другі, першы сакратар; старшыня райсавета, затым — райвыканкама; намеснік і першы намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама; ужо год — віцэ-прэм'ер. Ваша праца ў Нясвіжы вызначалася нейкім асаблівым, душэўным стаўленнем да зробленага папярэднікамі, жаданнем працягваць стваральныя традыцыі. Падчас вашага кіраўніцтва ўдалося газіфікаваць раён, зрабіць годныя дарогі, добраўпарадкаваць усе сто адзіннаццаць населеных пунктаў Нясвіжчыны, адзначыць юбілей горада, наладзіць штогадовы фестываль "Музы Нясвіжа", правесці "Дажынкі". На пасадзе віцэ-прэм'ера вы адказны за сацыяльную сферу, культуру, медыцыну, спорт, гандаль, -- словам, за ўсё, што працуе на чалавека, на яго дабрабыт, на працэсы яго выхавання. І, прызнацца, радаснай нечаканасцю было сёлета зноў пабачыць вас на адкрыцці "Музаў Нясвіжа".**

-- Ёсць асаблівы стан душы... Не магу сабе ўявіць, што не пабываю на тым фестывалі, які зрабіўся святам для ўсяго раёна. Расчароўваюць і засмучаюць размовы пра тое, што з-за эканамічных цяжкасцяў ён можа наступным разам не адбыцца: як – не быць такому фестывалю? Сёлета ў маі, калі завяршалася мая камандзіроўка ў Гродна, я думаў пра тое, каб паспець заехаць і ў Нясвіж, на адкрыццё свята. Урэшце, кожны дзень, які пражывае чалавек, ён павінен знайсці нешта для сябе, для душы. Чалавек не можа самаізалявацца, ён ладзіць простыя людскія кантакты, горнецца да мастацтва, спасцігае жыццё...

**-- Але ці хапае на гэта часу ў дзяржаўнага чалавека?**

-- На жаль, не хапае. Цяпер працоўны дзень доўжыцца 12—14 гадзін, выхадных амаль не бывае. Знаходжу магчымасць паглядзець перыёдыку, інфармацыйныя праграмы ТБ. Цяжэй удаецца сачыць за навінкамі ў тэатры, глядзець кіно. Але вельмі даражу сяброўствам з людзьмі мастацтва, з нашымі пісьменнікамі, паэтамі. Шкадую, што да мастацкай літаратуры звяртацца даводзіцца ўсё радзей – пераважна, падчас адпачынку. Усё ж такі свой "кніжны багаж" чалавек назапашвае і фарміруе да 25—28 гадоў.

У школе, апроч фізікі ды матэматыкі, я захапляўся літаратурай, сачыненні пісаў на "выдатна". Шмат чытаў у дзяцінстве. Усю вясковую бібліятэку перачытаў. Талстой, Тургенеў – гэта было блізка і зберагаецца праз усё жыццё. Яшчэ палюбіў рускіх савецкіх празаікаў: Залыгіна, Бялова, пазней адкрыў для сябе Распуціна. Заўсёды са мной былі беларускія класікі, а "Новая зямля" Якуба Коласа сёння літаральна кожны дзень *побач – у працоўным кабінеце на* паліцы. У гэтай паэме шмат момантаў, якія мог бы параўнаць з уласным жыццём.

**-- Дарэчы, Уладзімір Несцеравіч, у нашых літаратараў, дый не толькі, выклікае захапленне, як лёгка і гожа, "без паперкі", гаворыце вы па-беларуску, калі вам даводзіцца выступаць падчас літаратурна-мастацкіх святаў, значных культурніцкіх акцый, імпрэзаў. Афіцыйнае гучанне беларускай мовы — гэта нармальна, так і павінна быць. Але сёння многіх гэта па-добраму здзіўляе, бо існуе нейкі "моўны комплекс беларуса".**

-- Беларускай літаратурай я захапляўся ў школе, а калі самому давялося працаваць настаўнікам, дык фізіку і матэматыку выкладаў толькі на беларускай мове. Не цураўся яе і потым, калі, як вядома, для беларускай мовы на доўгія гады склаліся зусім неспрыяльныя ўмовы. Аднавіць свае веды вымусілі заявы калегдэпутатаў у парламенцкай зале, якія абураліся: маўляў, што гэта за народныя абраннікі, якія забыліся на родную мову? І даклад па бюджэце я падрыхтаваў тады па-беларуску. Дарэчы, некаторыя дэлегацыі, якія прыязджалі ў Нясвіж, прасілі, каб я распавядаў пра наш раён і яго гісторыю менавіта на беларускай мове.

Паколькі ў нас прынятыя дзве дзяржаўныя мовы, мой абавязак – аднолькава добра ведаць і паважаць абедзве. А на вялікіх нашых святах лічу абавязкам выступаць па-беларуску. Так, дарэчы, было і падчас адкрыцця мемарыяльнай шыльды ў Міры. Між іншым, у кіраўніцтве гаспадарак, на вытворчасці шмат людзей, якія размаўляюць толькі па-беларуску. Адчуваюць у гэтым свой абавязак, бо нарадзіліся на Беларусі, тут жывуць, працуюць... А тыя, што саромеюцца гаварыць па-беларуску, -- мабыць, не зусім адукаваныя, у агульным сэнсе гэтага слова. Мабыць, яны не разумеюць, не асэнсоўваюць значэнне нашай дзяржаўнасці, культуры, беларускай адукацыі. Быў жа час, калі вясковыя дзеці прыязджалі ў Мінск і мусілі цярпець *кпіны ці нават абразу з-за сваёй* мовы, якая нідзе не мела падтрымкі...

**-- Вось і саромеліся, і выракаліся... Уладзімір Несцеравіч, а ці гучыць беларускае слова ў вашым доме, у побыце?**

-- Беларуская мова ў нашым доме жыве. Яе ведае мая жонка, хаця родам яна з Браншчыны, руская, і паводле адукацыі – не лінгвіст, а фармацэўт, выдатны спецыяліст у сферы лекавых зёлак, да таго ж атрымала другую прафесію – эканаміста. Можам пагаварыць па-беларуску, сабраўшыся разам з дзецьмі. Мой сын – архітэктар, выкладае архітэктуру ў Нацыянальным тэхнічным універсітэце і працуе над дысертацыяй па архітэктуры малых і сярэдніх гарадоў Беларусі. Дачка – студэнтка, вывучае эканоміку.

Мне даводзіцца нямала ездзіць па Беларусі. І ў камандзіроўках, і падчас адпачынку *я люблю назіраць за наваколлем* і ўяўляць, што было ў гэтых мясцінах сто, дзвесце, пяцьсот гадоў таму, як жыў тут наш продак-беларус. Думаю пра тое, якім будзе гэты асяродак заўтра... Ведаеце, калі ў вячэрнія хвіліны я засяроджваюся, каб памеркаваць пра будучыя справы, я думаю і планую праз беларускую мову. Вось што важна: каб мы не толькі гаварылі на беларускай мове, але і думалі, і марылі па-беларуску.

**— Уладзімір Несцеравіч, вялікі дзякуй за ўвагу да нашай газеты, за тое, што знайшлі час для такой шчырай размовы.**

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

